● выдаецца са жнiўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● цана 1000 рублёў

14 верасня 1996 г. субота, № 227 (23030)

# ЗВЯЗДА




## РОЗГАЛАС

### ПАГАДНЕННІ ВЫКОНВАЮЦЦА Ў АДПАВЕДНАСЦІ З ГРАФІКАМ

**Пытанні далейшай работы расійскай нафтагазавай кампаніі «Слаўнафта» на беларускім рынку былі абмеркаваны 13 верасня на сустрэчы Прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі з кіраўнікамі гэтага акцыянернага таварыства Анатолем Фаміным і Сяргеем Алафінавым.**

«Мы рады, што нашы адносіны складваюцца дастойным чынам, — сказаў кіраўнік дзяржавы. — Вырашаючы праблемы ўзаемаразлікаў, гатовы пастаўляць у Расію прадукты харчавання, тавары народнага спажывання і тэхніку». Аляксандр Лукашэнка выказаў таксама падзяку нафтавым кампаніям суседняй краіны за аказаную дапамогу ў час уборкі ўраджаю.

«Расіяне і ў далейшым маюць намер пастаўляць нафту ў Беларусь, але неабходна вырашыць праблему канвертацыі беларускага рубля», — адзначыў прэзідэнт кампаніі «Слаўнафта» Анатоль Фамін і выказаў упэўненасць, што дапаможа ў гэтым адпаведнае распараджэнне кіраўніка дзяржавы. Разам з тым, ужо сёння Беларусь амаль на 30 працэнтаў разлічваецца за пастаўкі нафтапрадуктаў рознымі таварамі, якія рэалізуюцца ў Расіі і неабходны нафтавікам.

Што датычыць пагадненняў, падпісаных урадам рэспублікі і шэрагам расійскіх нафтавых кампаній, падкрэсліў Анатоль Фамін, то яны выконваюцца ў адпаведнасці з графікам. Завершаны першы этап рэканструкцыі беларускіх заводаў па перапрацоўцы «чорнага золата». «Наступны этап па нафтапрадуктазабеспячэнню таксама будзе выкананы ў тэрмін, і мы ад гэтага атрымаем узаемную карысць», — выказаў надзею прэзідэнт кампаніі. Паводле яго слоў, асабліва выгаднай можа быць рэканструкцыя Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода, які з'яўляецца даўнім партнёрам расіян.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

### ДА ВЕДАМА ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Чарговае пленарнае пасяджэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання адбудзецца 17 верасня 1996 года ў 16 гадзін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

### ПАДПІСКА ПРАЦЯГВАЕЦЦА. ЗРАБІЦЕ ПРАВІЛЬНЫ ВЫБАР!

**Сталі вядомы вынікі падпіскі на некаторыя рэспубліканскія выданні на 10 верасня. «Звязда» — 57.870; «Народная газета» — 138.913; «Советская Белоруссия» — 128.178; «Рэспубліка» — 63.422; «Белорусская нива» — 61.989.**

Нагадаем, што рашэннем Міністэрства сувязі і інфарматыкі падпіска на IV квартал бягучага года прадоўжана да 20 верасня. «Звязда» — гэта самая свежая і самая патрэбная інфармацыя. Не ўпусціце свой шанц кожны дзень мець у сябе свежы нумар нашай газеты. Да таго ж падпіска на «Звязду» самая танная з усіх рэспубліканскіх выданняў. Яе цана на 1 месяц складае 13.600 рублёў, на 3 месяцы — 40.800 рублёў. Зрабіце правільны выбар!




**А да Гарадзеі ўсё ж бліжэй!..**

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 360*

**Аб павелічэнні памераў дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей**

У мэтах забеспячэння дзяржаўнай падтрымкі сем'яў, якія выхоўваюць дзяцей, **пастанаўляю:**

1. Устанавіць, што з 1 кастрычніка 1996 г.:

дзяржаўная дапамога ў сувязі з нараджэннем дзіцяці выплачваецца ў дзесяціразовым памеры мінімальнай заработнай платы;

дзяржаўная дапамога па догляду дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў выплачваецца асобам, якія не працуюць і не атрымліваюць пенсій і фактычна ажыццяўляюць догляд дзіцяці, у трохразовым памеры мінімальнай заработнай платы;

памеры іншых дзяржаўных дапамог на дзяцей, што назначаюцца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей», павялічваюцца на 50 працэнтаў.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь забяспечыць фінансаванне дадатковых расходаў у адпаведнасці з гэтым Указам.

3. Міністэрству сацыяльнай абароны даваць неабходныя растлумачэнні аб парадку прымянення гэтага Указа.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*13 верасня 1996 г., г. Мінск.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 363*

**Аб некаторых мерах па ўдасканаленню сістэмы навуковага забеспячэння дзяржаўнага кіравання**

У мэтах далейшага ўдасканалення сістэмы навуковага забеспячэння дзяржаўнага кіравання **пастанаўляю:**

1. Пераўтварыць Беларускі інстытут інфармацыі і прагнозу пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у Інстытут сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін ажыццявіць ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку мерапрыемствы, звязаныя з указаным пераўтварэннем, а таксама прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь на зацвярджэнне Палажэнне аб Інстытуце сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і яго штатную колькасць.

2. Устанавіць, што назначэнне дырэктара Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на пасаду і вызваленне яго ад пасады ажыццяўляецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

3. Распаўсюдзіць на дырэктара Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь умовы аплаты працы, прадугледжаныя Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 1995 г. № 528 «Аб удасканаленні аплаты працы некаторых службовых асоб» для Старшыні Камітэта пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

4. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь стварыць пры Камітэце па навуцы і тэхналогіях Міністэрства адукацыі і навукі Інстытут сістэмнага аналізу і інфармацыйнага забеспячэння навукова-тэхнічнай сферы, перадаўшы ў яго распараджэнне Цэнтр навукова-тэхнічнай палітыкі, Цэнтр-выставак, Цэнтр рэгістрацыі навукова-даследчых і доследна-канструктарскіх работ былога Беларускага інстытута інфармацыі і прагнозу пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

5. Міністэрству працы сумесна з Міністэрствам фінансаў у месячны тэрмін устанавіць умовы аплаты працы работнікаў Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, прадугледзеўшы павышэнне дзеючых службовых акладаў у сярэднім у 1,3 раза.

6. Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ажыццяўляць фінансавае і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне дзейнасці Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*13 верасня 1996 г., г. Мінск.*

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА СУСТРЭЎСЯ З АЛЯКСАНДРАМ ЛЕБЕДЗЕМ

Як паведаміла карэспандэнту БЕЛТА служба інфармацыі Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь, 13 верасня 1996 года адбыўся рабочы візіт Дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Расійскай Федэрацыі Аляксандра Лебедзя ў Рэспубліку Беларусь. Ён сустрэўся з Дзяржаўным сакратаром Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь Віктарам Шэйманам. У другой палове дня адбылася сустрэча і працяглая гутарка Аляксандра Лебедзя з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам.

**БЕЛТА.**

## ОРГАНЫ БЯСПЕКІ І СПЕЦСЛУЖБЫ ДЗЯРЖАЎ—УДЗЕЛЬНІЦ СНД НА ШЛЯХУ ІНТЭГРАЦЫІ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сустрэўся 13 верасня ва ўрадавай рэзідэнцыі «Віскулі», што ў Белавежскай пушчы, з кіраўнікамі органаў бяспекі і спецслужбаў дзяржаў—удзельніц СНД, якія сабраліся тут на сваю чарговую нараду. Дырэктар Федэральнай службы бяспекі Расіі Мікалай Кавалёў, які старшынстваваў на ёй, падзякаваўшы кіраўніку беларускай дзяржавы за цудоўныя ўмовы для плённай работы, падкрэсліў, што цяперашняя сустрэча — гэта вельмі важны крок у паглыбленні супрацоўніцтва ў мэтах бяспекі маладых незалежных дзяржаў. У прыватнасці, ён выдзеліў чатыры асноўныя моманты, па якіх былі дасягнуты дамоўленасці. Гэта — стварэнне Савета кіраўнікоў органаў бяспекі і спецслужбаў СНД, стварэнне аб'яднанага банка даных па пытаннях арганізаванай злачыннасці, абмеркаванне праблем нелегальнай міграцыі, а таксама дакумент аб узаемадзеянні па лініі аператыўнага вышуку, у тым ліку не толькі злачынцаў.

Пасля падпісання падагульняючага дакумента перад удзельнікамі нарады выступіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Ён, у прыватнасці, падкрэсліў, што цяперашняя нарада праходзіць у кантэксце далейшага развіцця інтэграцыйных працэсаў на тэрыторыі СНД. І гэта збліжэнне, паводле яго слоў, не з'яўляецца паказчыкам замаху на нечый суверэнітэт, а прадыктавана самім жыццём.

Гаворачы аб рабоце спецслужбаў, Прэзідэнт адзначыў, што сёння многія іх праблемы ў краінах СНД агульныя. Гэта барацьба з арганізаванай злачыннасцю, тэрарызмам, кантрабандай зброі і наркотыкаў, нелегальная міграцыя, злачынствы ў банкаўскай сферы. Паспяхова вырашыць іх можна толькі аб'яднаўшы намаганні. Таму, наколькі дазваляюць канстытуцыі краін СНД, неабходна інтэгравацца і спецслужбам.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

## КАНЦЭПЦЫІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БЯСПЕКІ ПАВІННЫ БЫЦЬ УЗГОДНЕНЫ

13 верасня адбылася сустрэча сакратара Савета бяспекі Беларусі Віктара Шэймана са сваім расійскім калегам Аляксандрам Лебедзем. Яна прайшла ў развіццё нядаўняй сустрэчы кіраўнікоў двух ведамстваў у Маскве, дзе быў падпісаны Пратакол аб супрацоўніцтве.

Як падкрэсліў у ходзе перамоў Віктар Шэйман, супрацоўніцтва павінна зыходзіць перш за ўсё з таго, што канцэпцыі нацыянальнай бяспекі дзвюх краін павінны быць увязаны ў стратэгічным плане з улікам узаемавыгаднасці і інтарэсу кожнай.

Размова таксама ішла аб красавіцкім дагаворы, які датычыць вываду расійскіх стратэгічных войскаў з тэрыторыі Беларусі. Аляксандр Лебедзь адзначыў пры гэтым важнасць выпрацоўкі механізмаў рэалізацыі дагавора.

Як растлумачыў прэс-сакратар Лебедзя Аляксандр Бархатаў, тэрміны вываду расійскіх ядзерных часцей акрэслены канцом гэтага года. На сустрэчы, паводле яго слоў, было адзначана, што няма важкіх прычын, якія маглі б перашкодзіць нармальнаму ходу падзей.

Што датычыць абмяркоўваемых абаронных пытанняў, то было адзначана, што намеціліся першыя канкрэтныя поспехі па супрацоўніцтву войскаў ППА.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

## ГАРАЧАЯ ВАДА АДКЛЮЧАЦЦА НЕ БУДЗЕ

Грамадзянам Беларусі і асабліва мінчанам не пагражае асенняя бытавая неўладкаванасць. Змяненне графіка падачы гарачай вады або яе адключэнне ў мэтах эканоміі электраэнергіі не прадугледжваецца. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў галоўным упраўленні грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта, працаўнікі правядзення рэферэндуму 7 лістапада г. г. крыху паспяшаліся з чарговай правакацыяй, развесіўшы ў Мінску лістоўкі і распусціўшы чуткі аб быццам бы хуткім адключэнні гарачай вады.

У сувязі з гэтым Аляксандр Лукашэнка зрабіў сур'ёзнае папярэджанне ўраду аб безумоўным захаванні рэжыму работы камунальных службаў, які б выключаў з'яўленне чутак і домыслаў, што не адпавядаюць энергетычным магчымасцям дзяржавы. Прэзідэнт падкрэсліў, што ў Беларусі ёсць усе рэальныя падставы нармальна, з гарачай вадой і цяплом, перажыць зіму.

Аляксандр Лукашэнка даў даручэнне Кабінету Міністраў падрыхтаваць нараду з удзелам кіраўніка дзяржавы, дзе будуць падведзены вынікі падрыхтоўкі рэспублікі да зімы.

**БЕЛТА.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 13 верасня 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| ФК «Вераніка» (за расійскія рублі) | 18450<br>5400 | 18600<br>5610 | 12200 | 12400 | 3.28 | 3.45 | 53-15-04 |
| Гал. упр. НБ па Мінску і Мінскай вобл. з улікам дылінг. прэміі | 18000 | | 11900 | | 3.20 | | 26-64-41 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» з улікам дыл. прэміі | 18200 | 18500 | 11900 | 12200 | 3.20 | 3.35 | 372-825 |
| Ф-л № 3 «Гарант» АСКБ «Тэхнабанк»* | 18500 | 18600 | 12250 | 12330 | 3.39 | 3.456 | 331-917 |
| АКБ «Аб'яднаны капітал» | 18200 | 18600 | 12000 | 12300 | 3.15 | 3.30 | 394-092 |
| СКБ «Тэхнабанк» з улікам дыл. прэміі | 18350 | 18600 | 12150 | 12330 | 3.34 | 3.46 | 342-242 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 14550 | | 9645.34 | | 2.71 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 5367 | | 3558.55 | | 100 бел. р. 29.10 | | |

*Інфармацыя прадастаўлена агенцтвам Граўцова.*

*«ЗВЯЗДА» — добры сябар, які дапамагае выжыць у наш неспакойны час.*

*УВАГА! Да канца падпіскі засталося толькі 6 дзён. Спяшайцеся! Кошт падпіскі на месяц — 13.600, на чацвёрты квартал — 40.800.*

*ЗАСТАВАЙЦЕСЯ З НАМІ!*

## ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...

### ...падаражанне паліва адаб'ецца на кошце праезду і перавозак

Як ужо паведамляла «Звязда», з 10 верасня ў Беларусі ўзняліся цэны на нафту і нафтапрадукты. Зразумела, што ў рэшце рэшт падаражанне паліва адаб'ецца як на кошце праезду ў грамадскім пасажырскім транспарце, так і на паслугах транспартнікаў. Цяпер яны да ранейшых страт ад перавозак, у тым ліку і ад бясплатнага абслугоўвання пенсіянераў, атрымалі яшчэ і «падарунак» у выглядзе дадатковага павелічэння выдаткаў на набыццё паліва. З просьбай пракаменціраваць сітуацыю, а галоўнае — даць адказ наконт таго, чаго ж чакаць у бліжэйшы час людзям у гэтай галіне паслуг, карэспандэнт «Звязды» звярнуўся ў Міністэрства транспарту і камунікацый.

Як растлумачылі там, указам Прэзідэнта № 345 міністэрству (разам з шэрагам іншых ведамстваў) быў павялічаны спіс тарыфаў, якія цяпер яны маюць права самастойна рэгуляваць. Так, у дадатак да цэн на паслугі міжгародніх аўтобусных маршрутаў і таксі былі дададзены прыгарадныя перавозкі (тарыфы на якія раней зацвярджалі выканкомы з дазволу Камітэта цэн Мінэканомікі). Разам з тым, як падкрэслілі ў Міністэрстве транспарту і камунікацый, ніякіх зрухаў у плане змены цэн на паслугі аўтамабільных пасажырскіх перавозак да павышэння мінімальнай зарплаты не будзе. Што датычыцца далейшай перспектывы — гаварыць пакуль цяжка. Але, як заўважылі работнікі міністэрства, у любым выпадку да пытання павышэння тарыфаў яны будуць падыходзіць вельмі асцярожна. Да таго ж гэты працэс будзе знаходзіцца пад увагай Службы кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## КЛЮЧ ДА ДАБРАБЫТУ — ПЕРАЎТВАРЭННІ Ў ВЫТВОРЧАЙ СФЕРЫ

«Сённяшні крызіс эканомікі — гэта перш за ўсё і ў найбольшай ступені крызіс яе вытворчай сферы» — гэта цытата з «Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады» магла б быць эпіграфам да прэс-канферэнцыі намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Пятра Пракаповіча. Брыфінг для журналістаў з яго ўдзелам адбыўся 12 верасня ў Нацыянальным прэс-цэнтры і быў прысвечаны, галоўным чынам, растлумачэнню асноўных палажэнняў вышэйзгаданага дакумента.

Паводле слоў Пятра Пракаповіча, у сусветнай практыцы ёсць толькі адзін эфектыўны сродак забеспячэння ўстойлівага развіцця эканомікі — павелічэнне вытворчасці тавараў і паслуг. Менавіта з гэтай перадумовы і зыходзілі спецыялісты шэрага дзяржаўных і грамадскіх устаноў і арганізацый нашай краіны пры распрацоўцы праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на бліжэйшыя чатыры гады.

«Пытаннем жыцця або смерці нашай эканомікі» назваў Пётр Пракаповіч праблему прыцягнення замежных і ўнутраных інвестыцый.

Паводле слоў Пятра Пракаповіча, у выпадку прыняцця праекта праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця і яе паэтапнай паслядоўнай рэалізацыі, праз 2-3 гады наша краіна павінна дасягнуць стабільных паказчыкаў эканамічнага росту. У прыватнасці, размова ідзе аб прыросце ўнутранага валавога прадукту кожны год не менш чым на 5 працэнтаў, узроўню жыцця — не менш як на 5—8 працэнтаў. Эканамічны прырост у сферы вытворчасці павінен скласці каля 6 працэнтаў у год, у сельскай гаспадарцы — 3 працэнты. Нарошчванне і захаванне гэтых тэмпаў, як мяркуецца, дасць магчымасць Беларусі да 2000 года перавысіць паказчыкі эканамічнага развіцця, што мела наша рэспубліка ў 1990 годзе.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**



## АДНЫМ СКАЗАМ

■ **Па налічанай зарплаце** ў чэрвені **лідзіраваў Мінск** — прыкладна 1,5 мільёна рублёў, што ў 1,5 раза вышэй за **Брэсцкую вобласць** (найгоршы паказчык).

■ На 1 верасня ў Дзяржаўнай службе занятасці **зарэгістравана 183. 366 беспрацоўных.**

■ Цяпер у Беларусі ўчыняюць проціпраўныя дзеянні каля **300 арганізаваных злачынных груп**, у якіх налічваецца каля 3 тысяч членаў.

■ За першае паўгоддзе будаўнікамі рэспублікі **ўзведзена** на 30 працэнтаў больш квадратных метраў **жылля** (717 тысяч кв. м.), чым за гэты ж перыяд мінулага года.

■ Мытным нарадам на станцыі Гродна была выяўлена **буйная партыя** нічыйных **кантрабандных залатых вырабаў** — 374 ланцужкі і 144 кулоны.

■ За восем месяцаў гэтага года на Гомельшчыне затрымана **больш як 2 тысячы** непаўналетніх у стане алкагольнага ап'янення.

■ **Доўг** нашай рэспублікі **за расійскі газ** склаў 5 трыльёнаў 510 мільярдаў 981 мільён беларускіх рублёў, **за расійскі мазут** мы завінаваціліся 238 мільярдаў 310 мільёнаў рублёў.

■ У калекцыі МУС зараз знаходзіцца больш **за 5 тысяч фальшывых банкнотаў ЗША.**

***Рэдактару газеты «Звязда» НАРКЕВІЧУ У.Б.***

Накіроўваюцца для аператыўнага апублікавання выносімы на рэспубліканскі рэферэндум праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў, а таксама тэкст выступлення члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, кіраўніка фракцыі камуністаў С. І. Калякіна з абгрунтаваннем ініцыятывы 84 дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па ўключэнню дадатковых пытанняў на рэспубліканскі рэферэндум.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь В. НОВІКАЎ.**

***АД РЭДАКЦЫІ***

Друкуем гэтыя матэрыялы ў парадку ўсенароднага абмеркавання праекта новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

## Выступленне дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. І. Калякіна на сесіі Вярхоўнага Савета 6 верасня 1996 года

Паважаны Прэзідэнт!

Паважаныя калегі-дэпутаты!

Я лічу, што мы павінны падтрымаць кіраўніка дзяржавы Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку ў яго праве ініцыіраваць правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму. Як вядома, Прэзідэнт унёс на наш разгляд чатыры пытанні. Важнейшае сярод іх — пытанне аб прыняцці новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь — Канстытуцыі буржуазна-дэмакратычнай, што ставіць апошнюю кропку ў пытанні ліквідацыі савецкай улады. Гэтая характарыстыка не мая, дадзена яна 4 верасня г.г. на нарадзе па пытаннях правядзення рэспубліканскага рэферэндуму з кіраўнікамі адміністрацый раёнаў, начальнікамі аддзелаў, упраўленняў і службаў Мінгарвыканкома высокапрафесіянальным і адказным чалавекам — намеснікам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, доктарам юрыдычных навук, прафесарам Аляксандрам Міхайлавічам Абрамовічам.

Падзяляючы ацэнку прафесара Абрамовіча ў частцы буржуазнасці прапанаванай Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі, нельга пагадзіцца з тым, што яна з'яўляецца дэмакратычнай. Хутчэй наадварот, ліквідуюцца рэшткі народаўладдзя і ўвесь сэнс новай рэдакцыі Асноўнага закона можна звесці да трох пунктаў:

1. Прэзідэнт мае рацыю. 2. Прэзідэнт заўсёды мае рацыю. 3. Калі Прэзідэнт не мае рацыі, чытай пункты 1 і 2.

Пры гэтым сімптаматычна для нашай рэспублікі змяненні і дапаўненні распрацаваны пад канкрэтнага чалавека — Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку, і ніхто не задумваецца, што імператарскія паўнамоцтвы могуць дастацца зусім іншаму чалавеку, як гэта здарылася два гады назад.

З улікам выкладзенага дэпутаты дзвюх фракцый — ПКБ і аграрыяў прапанавалі свой варыянт змяненняў і дапаўненняў Асноўнага закона, які, на наш погляд, больш дэмакратычны, пры гэтым забяспечвае прынцып раздзялення, падкантрольнасць і збалансаванасць выканаўчай, заканадаўчай і судовай уладаў. Прапанаваны праект выключае магчымасць канцэнтрацыі неабмежаванай і бескантрольнай улады ў руках аднаго чалавека, ліквідуецца інстытут прэзідэнцтва — адна з асноўных крыніц канфліктаў і напружанасці ў нашай дзяржаве.

Выканаўчая ўлада ў выглядзе Савета Міністраў валодае неабходнымі паўнамоцтвамі і самастойнасцю, становіцца падкантрольнай народу — адзінай крыніцы дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы Беларусь, якая ажыццяўляецца ім непасрэдна ці праз прадстаўнічыя органы.

Згодна з прапануемым праектам Канстытуцыі ў рэспубліцы не будзе бескантрольных органаў улады і службовых асоб, што забяспечваецца не толькі дэмакратычнымі працэдурамі іх стварэння, выбрання і назначэння, але і незалежнасцю і паўнамоцтвамі судовай галіны ўлады, пракуратуры. Кантроль за канстытуцыйнасцю нарматыўных актаў у дзяржаве ажыццяўляецца Канстытуцыйным судом, які валодае неабходнай кампетэнцыяй і высокай ступенню незалежнасці.

Мясцовае кіраванне і самакіраванне атрымліваюць большую выключную кампетэнцыю, чым па прэзідэнцкім праекце.

У цэлым прапановы камуністаў і аграрыяў зыходзяць з перакананняў аб неабходнасці стварэння ў нашай рэспубліцы чалавечага, г. зн. гуманітарнага грамадства, якое з'яўляецца рэалізацыяй сацыялістычнай ідэі ў будучыні.

Акрамя змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю дэпутаты фракцый ПКБ і аграрнай прапанавалі сваім калегам па Вярхоўнаму Савету вынесці на абмеркаванне і рашэнне народа Беларусі два вельмі важныя пытанні, якія апошнім часам бурна абмяркоўваюцца ў грамадстве, — гэта пытанне аб выбарнасці кіраўнікоў мясцовых органаў выканаўчай улады людзьмі, якія жывуць на адпаведнай тэрыторыі, і пытанне аб публічным і выключна з бюджэту фінансаванні ўсіх органаў улады.

Прапановы камуністаў і аграрыяў знайшлі падтрымку сярод дэпутатаў іншых фракцый і незалежных дэпутатаў. Таму, выкарыстоўваючы права, прадастаўленае дэпутатам дзеючай Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь, я ад імя 85 чалавек уношу прапанову дапоўніць спіс пытанняў ініцыіраванага Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь рэспубліканскага рэферэндуму наступнымі трыма пытаннямі і варыянтамі адказаў на іх:

1. Прыняць змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, прапанаваныя дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў.

*«За» ці «Супраць».*

2. Ці выступаеце Вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі?

*«За» ці «Супраць».*

3. Ці лічыце Вы, што фінансаванне ўсіх галін улады павінна ажыццяўляцца публічна і толькі з дзяржаўнага бюджэту?

*«За» ці «Супраць».*

Пры гэтым, у адпаведнасці з арт. 1, 14, 39 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь», мы лічым неабходным па першых двух прапанаваных пытаннях правесці абавязковы рэферэндум, а па трэцім — кансультацыйны.

Усе неабходныя і адпаведным чынам афармленыя дакументы перададзены намі Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Просім разгледзець нашы прапановы і падтрымаць.

У заключэнне спынюся на такім важным пытанні, як забеспячэнне роўнасці правоў і магчымасцей усіх грамадзян пры правядзенні агітацыі як «за» так і «супраць» прапаноў, вынесеных на рэферэндум, забеспячэнне свабоднага волевыяўлення людзей і недапушчэнне фальсіфікацыі вынікаў галасавання. Рэальнае становішча спраў на сённяшні дзень выклікае, мякка кажучы, заклапочанасць і трывогу.

У дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, асабліва на тэлебачанні і радыё, магчыма распаўсюджванне толькі аднаго пункту погляду, а менавіта Прэзідэнта ў інтэрпрэтацыі яго акружэння. Існуе і ўзмацняецца палітычная цэнзура.

У абласцях і раёнах па лініі выканаўчай улады вызначаны не толькі задачы па арганізацыйна-тэхнічнаму забеспячэнню рэферэндуму, што нармальна, але і вызначаны канкрэтныя людзі па забеспячэнню патрэбнага выніку любой цаной.

Разам з палітычным вышукам іншадумцаў, для чаго ў адпаведнасці з зусім сакрэтным указам Прэзідэнта створана Служба бяспекі Прэзідэнта ў колькасці 260 чалавек, з паўнамоцтвамі кіраўніка, роўнымі паўнамоцтвам міністра абароны, апошні час пачаўся прамы ціск на людзей, праз пагрозы і шантаж. Яркі прыклад — гэта ўздзеянне на дэпутатаў з мэтай недапушчэння збору неабходнай колькасці подпісаў пад альтэрнатыўнай Канстытуцыяй і дадатковымі пытаннямі на рэферэндум.

Б'юць у самыя балючыя месцы, дабраліся да маці, дзяцей, братоў і сясцёр дэпутатаў.

Балюча было глядзець на людзей, якія, паставіўшы подпіс пад ініцыятывай аграрыяў і камуністаў, прыходзілі праз нейкі час і гаварылі: «Сяргей Іванавіч, выкрасліце мой подпіс, званіла маці, перадала, што брат (сястра, дзядзька, дачка) застануцца без работы, калі ты нешта там падпішаш». Далей, як гаворыцца, ехаць няма куды. Вельмі не хацелася б верыць, што гэта робіцца бліжэйшымі памочнікамі Прэзідэнта без яго санкцыі і ведама. Але сённяшнія адказы кіраўніка дзяржавы моцна пахіснулі гэтую веру.

Аляксандр Рыгоравіч, спыніце гэтую беззаконнасць. Вярніцеся ў рэчышча канстытуцыйнасці і законнасці, захавання асноўных правоў і свабод грамадзян. Інакш легітымнасць вынікаў рэферэндуму будзе пад вялікім пытаннем, а гісторыя Вашага кіравання ў Рэспубліцы Беларусь будзе названа перыядам самавольства.

**Праект Канстытуцыі друкуецца на 6-7 стар.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 359

### Аб прысваенні суддзям ваенных судоў Рэспублікі Беларусь кваліфікацыйных класаў

Кіруючыся пунктам 13 часткі першай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, **пастанаўляю:**

Прысвоіць:

*першы кваліфікацыйны клас*

**Лізунову** Паўлу Мікалаевічу – старшыні Беларускага ваеннага суда, палкоўніку юстыцыі

*пяты кваліфікацыйны клас*

**Гарэліку** Вячаславу Аляксандравічу – суддзі Гродзенскага міжгарнізоннага ваеннага суда, лейтэнанту юстыцыі

**Зялёнаму** Віктару Аляксандравічу – суддзі Бабруйскага міжгарнізоннага ваеннага суда, маёру юстыцыі

**Скобелеву** Васілю Валер'евічу – суддзі Мінскага міжгарнізоннага ваеннага суда, маёру юстыцыі.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

*13 верасня 1996 г. , г. Мінск.*

## ФЕДЭРАЦЫЯ ПРАФСАЮЗАЎ НАСТОЙВАЕ НА СТВАРЭННІ ПАГАДЖАЛЬНАЙ КАМІСІІ

Праект Канстытуцыі, апублікаваны ў друку, нягледзячы на асобныя пазітыўныя элементы, патрабуе карэннай дапрацоўкі. Аб гэтым заявіў старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык на праведзенай 12 верасня прэс-канферэнцыі.

Прапануемы распрацоўшчыкамі праект Канстытуцыі фактычна кардынальна мяняе канцэптуальныя асновы канстытуцыйнага ладу нашай дзяржавы. Новы праект, лічыць Федэрацыя прафсаюзаў, пры фармальным захаванні асноўных палажэнняў дзеючай Канстытуцыі, «пабудаваны на ідэі поўнага непадзельнага дамінавання прэзідэнцкай улады пры істотным аслабленні ролі і функцыі парламента, урада, судовай сістэмы, органаў пракурорскага нагляду».

ФПБ занепакоена і тым, што ў праекце Канстытуцыі, прапанаваным Прэзідэнтам, фактычна звужаецца, калі не ліквідуецца поўнасцю, прававое поле сацыяльнага партнёрства ў сферы сацыяльных, працоўных і звязаных з імі адносінаў.

Аднак, паводле слоў Уладзіміра Ганчарыка, альтэрнатыўны праект Канстытуцыі, прапанаваны камуністамі і аграрыямі, прафсаюзы таксама лічаць непрымальным варыянтам. «Мы не супраць пасады Прэзідэнта, мы за разумныя, узважаныя і раўнапраўныя ўзаемадзеянні ўсіх галін улады». Таму, заўважыў ён, ФПБ будзе настойваць на стварэнні пагаджальнай камісіі з удзелам прадстаўнікоў Адміністрацыі Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета, палітычных партый і рэспубліканскіх грамадскіх аб'яднанняў.

**Кацярына ШЫМАНСКАЯ, БЕЛТА.**

## ЗВАРОТ ДА ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Паважаныя дэпутаты!

Падзеі апошніх дзён і асабліва дзеянні кіраўніцтва Вярхоўнага Савета на чале з С. Шарэцкім, які стаў на шлях прамой канфрантацыі з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам і на зневажальныя, надуманыя абразы ў сродках масавай інфармацыі кіраўніка нашай дзяржавы, прымусіла звярнуцца да вас.

На якой падставе пан С. Шарэцкі, які абяцаў сваім выбаршчыкам служыць верай і праўдай, беспадстаўна прад'яўляе А. Р. Лукашэнку абвінавачанні ў імкненні стварыць фашысцкую дыктатуру ў рэспубліцы, ганячы яго сапраўдны намер навесці парадак і прымусіць кіраўнікоў усіх рангаў адказваць за даручаную справу?

Чаму пан С. Шарэцкі на ўвесь свет падняў шум аб набліжэнні фашысцкай пагрозы і робіць гэта асабліва абуральна пасля свайго вяртання з паездкі ў ЗША?

У сваім звароце да народа Беларусі, надрукаваным у газеце «Народная воля» і паказаным усімі расійскімі тэлеканаламі вяшчання, пан С. Шарэцкі пасля слоў «паважаныя суайчыннікі» піша: «Наша краіна на мяжы фашысцкай дыктатуры». Што дало падставу яму так панічна сцвярджаць гэта?

Калі новы праект Канстытуцыі, прапанаваны Прэзідэнтам і апублікаваны ў сродках масавай інфармацыі для абмеркавання народам і ўнясення змяненняў і дапаўненняў, то гэта не што іншае, як з хворай галавы на здаровую.

Напрыклад, артыкул 97 праекта Канстытуцыі дае самыя шырокія паўнамоцтвы парламенту не толькі па выданню законаў, але і, паводле сцвярджэння прэм'ер-міністра, разгляду пытанняў аб даверы ўраду і зняццю Прэзідэнта з пасады. Парламент дае згоду на назначэнне старшыні і членаў Вярхоўнага суда, Генеральнага пракурора, старшыні і членаў праўлення Нацыянальнага банка, выбірае суддзяў Канстытуцыйнага суда. Дазвольце спытаць у пана С. Шарэцкага, аб якой дыктатуры, тым больш фашысцкай, ён сцвярджае, калі парламенту даюцца вялікія паўнамоцтвы аж да зняцця Прэзідэнта? Хітруеце, пан Старшыня!

Аб якой ліквідацыі Саветаў ён па-падбухторніцку заяўляе, калі артыкулам 91 праекта Канстытуцыі даецца дадатковае права выбіраць сваіх прадстаўнікоў у сенат, гэта значыць парламент?

Хто даў права кіраўніку нашага заканадаўчага органа ўводзіць такую смуту ў рэспубліцы і бударажыць і так ужо замучаны народ?

Яго дзеянні не сумяшчальныя не толькі з высокай пасадай Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, але і зневажальныя для сумленнага грамадзяніна.

Зыходзячы з вышэйсказанага, мы звяртаемся да вас, паважаныя дэпутаты, з просьбай аб неадкладным перавыбранні кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і тым самым палажыць канец бяссэнсавым разборкам, спыніць смяшыць увесь свет і выстаўляць на пасмешышча ўвесь беларускі народ і заняцца справай па вываду рэспублікі з вельмі глыбокага палітычнага і эканамічнага крызісу.

**Зварот падпісалі:**

**ад партыі Беларускага патрыятычнага руху А. І. Баранкевіч; ад Беларускага саюза афіцэраў Д. А. Іваноў; ад Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане С. М. Гаварушкін; ад Славянскага Сабора «Белая Русь» М. М. Сяргееў; ад Рэспубліканскай арганізацыі моладзі «Прамое дзеянне» В. В. Саевіч; ад Усебеларускай асацыяцыі інвалідаў ВАВ А. М. Бандаровіч; ад Камуністычнай рабоча-сялянскай партыі Е. Н. Ляпешка; ад Беларускага цэнтра падтрымкі хрысціянскай культуры В. Ф. Кучынскі; ад Беларускага студэнцкага саюза В. А. Аляксандраў; ад Міжнароднага фонду па сацыяльнай абароне і працоўнай рэабілітацыі інвалідаў Л. С. Краўчанка; ад Беларускага казацтва М. Д. Улаховіч; ад Усебеларускага руху медработнікаў В. А. Краўчанка; ад Усебеларускай асацыяцыі педагагічных работнікаў Н. П. Фамічоў.**

## ЗВЕСТКІ АБ АБ'ЕКЦЕ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ УЛАСНАСЦІ, ЯКІ ПАДЛЯГАЕ РАЗДЗЯРЖАЎЛЕННЮ І ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

| | | | |
|---|---|---|---|
| Поўная і скарочаная назва аб'екта прыватызацыі, яго ведамасная прыналежнасць | | | *Белэнергазабкамплект (БЭЗК), Мінпаліўэнерга Рэспублікі Беларусь* |
| Адрас | | | *г. Мінск, вул. К. Маркса, 14* |
| Від дзейнасці аб'екта прыватызацыі, узбуйненая наменклатура выпускаемай прадукцыі | | | *Матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне аб'яднанняў і прадпрыемстваў Мінпаліўэнерга і іншых міністэрстваў і ведамстваў; гандлёва-вытворчая дзейнасць* |
| Плануемыя тэрміны прыватызацыі | | | *IY квартал 1996 г. -- I квартал 1997 г.* |
| Мяркуемы спосаб раздзяржаўлення і прыватызацыі | | | *ААТ* |
| Орган, які ажыццяўляе прыватызацыю гэтага аб'екта, і яго месцазнаходжанне | | | *Мінскі гарадскі камітэт па кіраванню дзяржмаёмасцю і прыватызацыі* |
| Колькасць працуючых, чал. | | | *100* |
| Тэрміны прад'яўлення прэтэнзій | | | *Месяц з дня апублікавання* |
| Мяркуемая велічыня статутнага фонду ствараемага ААТ (пачатковая цана продажу), млн. руб. | | | *5965* |
| Кошт асноўных фондаў, млн. руб. | Усяго | | *4852* |
| | у т.л. па групах | будынкаў і збудаванняў | *2672* |
| | | машын і абслугоўвання | *1538* |
| | | невытворчых фондаў | - |
| Плошча зямельнага ўчастка, які займае аб'ект, га | | | *4.3* |
| Пачатыя інвестыцыйныя праекты, млн. руб. (незавершанае будаўніцтва) | | | - |
| Наяўнасць належных прадпрыемству долей (паёў, акцый) у актывах іншых прадпрыемстваў, млн. руб. | | | - |
| Нематэрыяльныя актывы, млн. руб. | | | *0,9* |
| Фінансавае становішча аб'екта, млн. руб. | Балансавы прыбытак | | *416* |
| | Запазычанасць | крэдыторская | *26187* |
| | | дэбіторская | *14802* |

**Старшыня камісіі КУПЧЫН Н. П.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ПРЫ ВЫРАШЭННІ ПРАБЛЕМЫ ВАЕННАПАЛОННЫХ УЗНІКЛІ ЦЯЖКАСЦІ

Вывад расійскіх войскаў з Чачні не спынены, а прыпынены да поўнага вырашэння праблемы ваеннапалонных. Такое тлумачэнне далі карэспандэнту ІТАР-ТАСС у штабе расійскіх войскаў у Ханкале. Паводле слоў расійскіх вайскоўцаў, кансультацыі па гэтаму пытанню паміж расійскім і чачэнскім бакамі адбываюцца рэгулярна, аднак рашэнне яго суправаджаецца пэўнымі цяжкасцямі. Нагадаем адно з апошніх выказванняў Аляксандра Лебедзя аб тым, што вывад войскаў з Чачні не завершыцца да таго часу, пакуль не будзе вызвалены з палону апошні расійскі вайсковец.

### ІРАК ГАТОВЫ АДБІЦЬ ЛЮБУЮ АТАКУ?

Злучаныя Штаты накіравалі ў Персідскі заліў яшчэ адзін авіяносец і восем знішчальнікаў-бамбардзіроўшчыкаў F-117. Прэзідэнт ЗША Клінтан зноў папярэдзіў прэзідэнта Іракa Хусейна, што Злучаныя Штаты зробяць усё, каб Ірак не пагражаў сваім суседзям і амерыканскім пілотам. У чацвер Ірак заявіў, што гатовы адбіць любую атаку. Ірак пацвярджае, што яго сілы процiпаветранай абароны зноў выпусцілі тры зенітныя ракеты па патрульных знішчальніках ЗША і іх саюзнікаў.

### ІЗРАІЛЬСКІЯ ВАЙСКОЎЦЫ НАНЕСЛІ ЎДАРЫ ПА ПАЗІЦЫЯХ «ХЭЗБАЛАХ»

Ізраільскія верталёты нанеслі ўчора ўдар па мяркуемых месцах дыслакацыі баевікоў мусульманскай радыкальнай групоўкі «Хэзбалах» у Паўднёвым Ліване. Пра гэта паведаміла агенцтва Рэйтар са спасылкай на ізраільскія ваенныя крыніцы.

**ААТ «СержААН» ліквідуецца.**

Прэтэнзіі прымаюцца на працягу двух месяцаў з моманту апублікавання аб'явы.

*ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ*

## НІЯКІХ ЗМЯНЕННЯЎ НЕ АДБЫЛОСЯ

***«Я маю пяцёра непаўналетніх дзяцей. Раней, калі я ішла ў чарговы водпуск, мне дабаўлялі да яго тры дні. У гэтым годзе мне сказалі, што гэтая пастанова ўжо адменена і дадатковы водпуск мне не належыць».***

– Не, у заканадаўстве ніякіх змяненняў не адбылося. Як і раней, па жаданню працуючых жанчын, якія маюць дваіх і больш дзяцей ва ўзросце да 12 гадоў (уключаючы год дасягнення гэтага ўзросту) за кожны каляндарны год прадастаўляецца трохдзённы аплатны водпуск. Праўда, ёсць адна ўмова: агульная працягласць штогадовага і дадзенага водпуску не павінна перавышаць 28 каляндарных дзён.

***«Мой сын, якому споўнілася 17 гадоў, вярнуўся з дыскатэкі пасля 12 гадзін ночы. Па яго расказу, яго разам з сябрамі амаль ля самага дома затрымалі работнікі міліцыі. У апорным пункце, куды іх прымусілі прайсці, склалі пратакол і сказалі, што бацькам давядзецца плаціць штраф. Няўжо амаль дарослага сына нельга адпускаць па вечарах на вуліцу?»***

– Адпускаць падлетка па вечарах, у тым ліку і на дыскатэку, не забаронена. Але ў сувязі са складанай крыміналгеннай абстаноўкай у гарадах некаторыя выканкомы прымаюць рашэнні, якімі забараняюць дзецям да 18 гадоў знаходзіцца на вуліцы без суправаджэння дарослых позним вечарам (у Мінску, напрыклад, пасля 23.00). Калі гэтая забарона будзе парушана і вашага сына затрымаюць работнікі міліцыі, дык камісія па справах непаўналетніх вашага раёна мае права налажыць на вас штраф у памеры 3 мінімальных заработных плат.

**Наталля ДОЎНАР.**

*ПОГЛЯД*

## ПРЫВІД «ЧОРНАГА ПЕРАДЗЕЛУ»

Апошнія пяць гадоў кожны раз, калі прадстаўнікі ўлады хацелі паказаць сябе перад выбаршчыкамі з самага лепшага боку, то сціплы пералік уласных дасягненняў яны, як правіла, пачыналі з упамінання пра палітычную стабільнасць у краіне.

Куды ж падзелася гэта заваёва? Сёння, калі ўсе дзяржавы, якія нас акружаюць, без гвалту і палітычных узрушэнняў, спакойна будуюць сваю будучыню, Беларусь на вачах ператвараецца ў непрадказальны рэгіён перманентнага палітычнага крызісу. Калі яшчэ некалькі гадоў таму нашы палітыкі ў адзін голас наракалі на тое, што пра Беларусь не гавораць і не пішуць у свеце, то цяпер сітуацыя кардынальным чынам змянілася. Вядомасць да нашай краіны прыйшла, але вядомасць незайздросная, скандальная: у зводках навін у замежных (у тым ліку расійскіх) сродках масавай інфармацыі Беларусь часцей за ўсё ўпамінаецца ў раздзеле скандалаў, выкрыццяў, непрадуманых палітычных заяў і абвінавачанняў.

Вялікі розгалас у свеце набыў зварот Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага да беларускага народа, змешчаны 11 верасня ў газеце «Народная воля». Аналізуючы апошнія падзеі ў краіне, спікер прыходзіць да высновы, што Беларусі ў выпадку перамогі Прэзідэнта на рэферэндуме рэальна пагражае ўсталяванне дыктатуры фашысцкага толку.

Гэтая рэзкая катэгарычная заява сведчыць аб тым, што Рубікон у адносінах паміж кіраўнікамі дзвюх галін улады пяройдзены і краіна на бліжэйшыя месяцы ўступае ў рызыкоўную паласу рэзкага абвастрэння палітычнай барацьбы.

Бяда ў тым, што «паны б'юцца, а ў халопаў чубы трашчаць». Услед за палітычнай элітай на два непрымірымыя лагеры непазбежна будзе разарвана і грамадства.

У гэтыя дні прыхільнікі Прэзідэнта актыўна абвінавачваюць у абвастрэнні сітуацыі парламент і яго кіраўніцтва. Але згадаем: яшчэ сем месяцаў таму парламенцкая большасць дружна падтрымлівала любыя ініцыятывы і кадравыя прызначэнні Прэзідэнта.

Сямён Шарэцкі пазбягаў нават самых дробязных крытычных заўваг у адрас Аляксандра Лукашэнкі і ўсяляк дэманстраваў лаяльнасць да яго. І раптам большасць дэпутатаў на чале са спікерам перайшла ў апазіцыю? Што падштурхнула да гэтага палітыкаў, за якіх, як і за Прэзідэнта, галасаваў народ?

Уявім зразумелую для вясковага чалавека сітуацыю. Жывуць побач два браты-суседзі. Кожны робіць сваю справу, у кожнага свая сядзіба, абнесеная агароджай. І вось аднаму з іх здалося, што мяжа паміж сядзібамі праведзена несправядліва: трэба было б прырэзаць братавай зямлі.

І замест таго, каб дамовіцца па гэтай праблеме з суседам ці, у горшым выпадку, звярнуцца ў суд, чалавек пачынае ўкопваць на суседскай зямлі слупы і пераносіць агароджу. Нават калі гэтак зробіць старэйшы брат – чалавек наўрад ці моўчкі праглыне крыўду.

Не праглынуў крыўду і Вярхоўны Савет. Альтэрнатыўны праект Канстытуцыі, у якім увогуле не прадугледжана пасада Прэзідэнта – гэта якраз і ёсць праява закранутага самалюбства, прыніжэння, крыўды.

Шкада, што ў гэтай сітуацыі людзей, якім глыбока абыякавыя любыя амбіцыі і крыўды палітыкаў, вымушаюць адназначна станавіцца на бок таго ці іншага «Суседа». У вясковых спрэчках наконт мяжы паміж суседзямі (дарэчы, не такіх ужо і рэдкіх) найбольш дальнабачныя вяскоўцы хоць і выслухоўваюць прэтэнзіі кожнага з бакоў, не спяшаюцца адназначна станавіцца на якую-небудзь адну пазіцыю. А самыя мудрыя раяць пакінуць мяжу ў спакоі – там, дзе яна была дагэтуль. І не займацца перадзелам, які акрамя бойкі, крыўды, судовых выдаткаў, а то і крыві, ніколі ні да чога добрага не прыводзіў.

Так і ў выпадку са шматпакутнай беларускай Канстытуцыяй. Шкада, што хто-небудзь з суб'ектаў, якія маюць на гэта права, не вынес на рэферэндум той Асноўны закон, які дзейнічае сёння. Паводле якога, дарэчы, выбраны і Прэзідэнт, і Вярхоўны Савет. Па гэтай Канстытуцыі ўсе мы жывём ужо больш як два гады, і скаргаў на яе з боку звычайных грамадзян, не надзеленых уладай, нешта не прыпамінаецца.

Чамусьці думаецца, што многія і многія беларусы, не схільныя да рэвалюцыйных «чорных» перадзелаў, не захацелі б галасаваць ні за «белых», ні за «чырвоных», і пакінулі б спрэчную «мяжу» ўладных паўнамоцтваў там, дзе яна была праведзена дагэтуль і да якой у радавых грамадзян вялікіх прэтэнзій не было.

У палітыкаў яшчэ ёсць шанц сесці за стол перагавораў і паспрабаваць уціхамірыць уласныя амбіцыі. Празмерныя жаданні ніколі не прыводзілі да бліскучага выніку.

Патрабаваць ад народа, як у вядомай казцы ад залатой рыбкі, задавальнення непамерных жаданняў – сабе даражэй. Фінал, як і ў казцы Пушкіна, заўсёды сумны .

**Валянцін ЖДАНКО.**

***Рэгіну Кудзялевіч*** *калегі віншуюць з юбілеем! Бадзёрасці, маладосці, шчасця ў дзецях і ўнуках.*

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.40 | 19.30 | 12.50 |
| Віцебск – | 6.29 | 19.21 | 12.52 |
| Магілёў – | 6.29 | 19.20 | 12.51 |
| Гомель – | 6.29 | 19.13 | 12.44 |
| Гродна – | 6.57 | 19.43 | 12.46 |
| Брэст – | 6.57 | 19.45 | 12.48 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 13 верасня**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Кіпрыяна, Генадзя.**

**К. Узвышэнне Святога Крыжа, Бернарды.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пахмурнае і дажджлівае надвор'е. У паўднёвых і цэнтральных раёнах моцныя дажджы. Тэмпература паветра ў Гродне – 10–12, Віцебску, Брэсце – 11–13, Мінску, Магілёве – 12–14, Гомелі – 13–15 градусаў.

У наступныя двое сутак воблачна, часам дождж, 15-га месцамі пройдуць моцныя дажджы. Тэмпература ўначы – 6–11, удзень – 9–14 градусаў цяпла.

# Усе дарогі «вядуць у Рым». Але най

***Уладзімір МКРТЫЧАН:***

## «Аэрагеакарт» — прадпрыемства, у любы момант гатовае выконваць задачы ў галіне геадэзіі, у тым ліку і дзяржаўныя»

**Не ведаю як хто, але асабіста я калісьці, калі чытаў або слухаў казкі, па-дзіцячы зайздросціў іх галоўным героям, якія ў выпадку нечага непрадбачанага, калі доўга разважаць не было часу, заўсёды з сапраўднай каралеўскай лёгкасцю слоў і дзеянняў маглі ўсклікнуць: «Паўцарства за каня!» Хіба толькі пазней, у школе, пры вывучэнні дакладных навук накшталт алгебры і геаметрыі, пачаў разумець падставы гэтай царскай «шчодрасці»: лёгка дзяліць тое, што мае межы «адсюль і вось датуль», ды і то ў казках або фільмах.**

**Калі ж гаварыць сур'ёзна, навука геадэзія — а менавіта з яе дапамогай робяцца ўсе неабходныя вымярэнні (у тым ліку і тых жа плошчаў) у адносінах да паверхні Зямлі і іншых нябесных целаў, і без вынікаў якіх немагчыма практычна ніякая дзейнасць чалавека, была вядома людзям яшчэ за шмат стагоддзяў да нашай эры. Ужо ў Старажытным Егіпце карысталіся геадэзіяй — земледзяленнем (geo — зямля, daisia — дзяліць), потым (адразу ў якасці раздзела геадэзіі, затым як самастойная навука) з'явілася геаметрыя (землевымярэнне). Неабходнасць гідрамеліярацыі абумовіла нараджэнне інжынернай геадэзіі, якая дапамагала складаць праекты каналаў, забяспечваць вынясенне іх на мясцовасць і г. д. І па сённяшні дзень найбольш яскравым прыкладам інжынерна-геадэзічнай думкі застаюцца знакамітыя егіпецкія піраміды. У больш позні час без паслуг геадэзіі немагчыма сабе ўявіць будаўніцтва Суэцкага (адкрыты ў 1869 годзе), Панамскага (работы пачаліся ў 1879 го-**

### ГІСТОРЫЯ, ЯКАЯ ПАЧЫНАЛАСЯ З... РЫДЛЁЎКІ

Навукова-тэхнічны цэнтр быў створаны на грамадскіх пачатках у 1990 годзе па рашэнню Усесаюзнага таварыства геадэзіі, аэракасмічных здымак і картаграфіі і з дазволу Савета Міністраў БССР.

Пачынаць было цяжка, бо мы не мелі ніякіх сродкаў, нас ніхто ўсур'ёз не ўспрымаў. Магчыма прагучыць смешна, але ледзь не першым нашым набыткам сталі... звычайныя рыдлёўкі, на якія пайшлі заробленыя намі грошы. А першым сур'ёзным заказам, які мы выканалі, былі высокадакладныя даследаванні штучных узлётна-пасадачных палос аэрапортаў Беларусі: у Гродне, Брэсце, Магілёве і Мінску.

Гэта была надзвычай цяжкая праца, бо тады яшчэ не была адладжана яе методыка. Але заказ мы выканалі настолькі добра, што нават саюзныя спецыялізаваныя прадпрыемствы былі здзіўлены нашымі выдатнымі тэхнічнымі справаздачамі. Паколькі наш цэнтр ствараўся дзеля навукова-тэхнічных мэтаў, гэтыя элементы мы і прымянілі на практыцы: змянілі тэхналогію, апрацавалі даныя па ўласнай методыцы. Дзякуючы такому падыходу да справы ўжо праз год мы заснавалі малое прадпрыемства «Геадэзкарт». На заробленыя сродкі набылі неабходныя прыборы, узялі на пастаянную працу работнікаў, атрымалі ліцэнзію на тапографа-геадэзічную дзейнасць.

На сённяшні дзень «Аэрагеакарт» займаецца практычна ўсім комплексам геадэзічных паслуг, пачынаючы ад традыцыйных інжынерна-тапаграфічных пошукаў, выдання картаграфічнай прадукцыі да, скажам, неабходных работ па геадэзічнаму абслугоўванню газаправодаў Беларусі. Шмат працуем па ўстанаўленню граніц землекарыстання для выдачы дзяржаўных актаў на права карыстання зямлёй. «Аэрагеакарт» — першае недзяржаўнае прадпрыемства Беларусі, якое не мае ніякіх абмежаванняў на звычайныя тапографа-геадэзічныя работы, звыклыя для гэтай галіны.



**Дырэктар «Аэрагеакарт» Уладзімір МКРТЫЧАН.**

### ІНТАРЭСЫ, СКІРАВАНЫЯ НА ЎСХОД...

Неўзабаве пасля стварэння цэнтра эканамічнае становішча ў краіне пачало пагаршацца. Навукова-тэхнічныя распрацоўкі ўсё менш цікавілі заказчыкаў, таму нам прыйшлося пераключыцца яшчэ і на вытворчую дзейнасць. У нас ужо былі прыборы, кадры, аўтарытэт — і мы пачалі расшырацца. Так ужо атрымалася, што нашы інтарэсы скіраваліся ў бок Расіі. У прыватнасці, сумесна з суседзямі стварылі СП, якое пачало абслугоўваць Чэлябінскую, Бранскую і Смаленскую вобласці. Зразумела, не абышлося без канкурэнцыі, але і тут «Аэрагеакарт» аказаўся на вышыні. Адзін з расійскіх інстытутаў маніторынгу зямель выйшаў на нас з прапановай стаць для іх экспертамі: на адным з аб'ектаў трэба было прымяніць іх тэхналогію і даць заключэнне. Наша тэхнічная справаздача выклікала шмат сур'ёзных спрэчак, але справа скончылася тым, што паміж інстытутам і цэнтрам быў заключаны доўгатэрміновы дагавор аб супрацоўніцтве.

Натуральна, у Расіі ёсць шэраг куды больш магутных прадпрыемстваў з добрымі кадрамі, але нам дазваляюць з імі канкурыраваць большая адказнасць і меншая патрабавальнасць. Калі расіяне нярэдка могуць і за цану паспрачацца, дык мы зробім працу крыху танней, але нават больш якасна. Зрэшты, гэта зусім не азначае, што ў нас няма праблем — ужо год, як мы з Расіі не можам атрымаць ні капейкі грошай. Там цяжка працаваць, бо ў суседзяў велізарныя неплацяжы. Асабліва трэба адзначыць, што многія праекты, якія рэалізоўваў «Аэрагеакарт» за межамі Беларусі, ажыццяўляліся сумесна з Беларускім картографа-геадэзічным аб'яднаннем «Белгеадэзія» (генеральны дырэктар М. Аўраменка) пры ўзаемнай падтрымцы і арганізацыйным садзейнічанні. Дзякуючы такому супрацоўніцтву, узаемадапамозе прадпрыемствы і па сённяшні дзень трымаюцца на плаву.

### ...І НА ЗАХАД

Зараз шмат гавораць аб тым, што на Захадзе ўсё лепшае, чым у нас. Не буду гаварыць аб іх аснашчэнні, тэхналогіях — яны сапраўды выдатныя і значна пераўзыходзяць нашы. Але кадры ў нас нічым не горшыя, чым заходнія. У гэтым я ўпэўніўся, пабываўшы нядаўна ў Германіі ў пошуках магчымага супрацоўніцтва. Падчас паездкі я наўмысна не шукаў кантактаў з вузкаспецыялізаванымі геадэзічнымі прадпрыемствамі — лічу, што яны бесперспектыўныя. Цікава было знаёміцца са шматпрофільнымі прадпрыемствамі, дзе тапаграфічная, картаграфічная дзейнасць адыгрывае толькі дапаможную ролю. І атрымалася, што з нямецкага боку была праяўлена немалая цікавасць да нас. У прыватнасці, некаторыя рэкламныя фірмы, якія выкарыстоўваюць у сваёй дзейнасці картаграфічныя распрацоўкі, праявілі пэўную цікавасць да таго, што мы прапанавалі. Уразіла немцаў і тое, што мы прапаноўвалі супрацоўніцтва на роўных, а не прасілі грошай, як яно сёння нярэдка бывае ў выпадку стварэння якога-небудзь СП. У выніку нас у верасні зноў запрашаюць у Германію, а мы спадзяёмся прыняць нямецкіх калег у сябе ў канцы года.

### ГЕАГРАФІЧНЫ ЦЭНТР — СІМВАЛ СУВЕРЭННАЙ БЕЛАРУСІ

У жыцці кожнага сапраўднага грамадзяніна ёсць рэчы, якія заўжды атаясамліваюцца ў свядомасці з непахіснай веліччу сваёй краіны, гонарам за яе: дзяржаўныя гімн, сцяг, герб. Зрэшты, гэта могуць быць і нейкія іншыя сімвалы або мясціны — галоўнае, каб яны служылі справе кансалідацыі грамадства на глебе павагі да гісторыі, працягу, каб абуджалі ў людзях пачуццё духоўнай сувязі паміж даўнінай і сучаснасцю, еднасці як нацыі. Таму, думаецца, Беларусь можа па праву ганарыцца з нагоды з'яўлення ў яе жыцці і гісторыі яшчэ аднаго менавіта такога сімвала — геаграфічнага цэнтра краіны, што знаходзіцца каля вёскі Антонава Навасялкоўскага сельскага Савета Пухавіцкага раёна. Мы вельмі рады, што сумесна са спецыялістамі-калегамі «Белгеадэзіі», тапографа-геадэзічнай экспедыцыяй № 82 (начальнік Уладзімір Хрусталёў), інфармацыйна-вылічальным цэнтрам «Белгеадэзіі» (начальнік Барыс Фурман) фірме «Аэрагеакарт» выпаў гонар выконваць матэрыяльнае і тэхнічнае забеспячэнне неабходных работ. На маю думку, каштоўнасць гэтага месца найперш у тым, што яно можа стаць своеасаблівым сімвалам яднання грамадства. Не выпадкова, напэўна, што над вылічэннем геаграфічнага цэнтра працавалі прадстаўнікі самых розных нацыянальнасцей. Дарэчы, на адкрыцці спецыяльнага геадэзічнага комплексу ў гонар гэтай падзеі было шмат дзяцей. Калі на гэтае месца прыйшлі нашы нашчадкі — значыць яно сапраўды стане святым у плане еднасці ўсіх, хто пражывае на гасціннай зямлі Беларусі.

### ГАЛОЎНАЯ КАШТОЎНАСЦЬ — КАДРЫ

Мяркую, што на сённяшні дзень, калі параўноўваць усе прадпрыемствы Беларусі геадэзічнага профілю па якаснаму саставу, па ўзроўню кваліфікацыі, дык у нас сфарміраваўся дастаткова моцны ў творчым плане калектыў. Адсюль, дарэчы, і ўсе нашы поспехі і здзяйсненні. Усе работнікі маюць вышэйшую адукацыю, ёсць нават кандыдат навук. Большая частка спецыялістаў «Аэрагеакарт» — гэта выхаванцы Аэрагеадэзічнага прадпрыемства № 5 (сёння — аб'яднанне «Белгеадэзія»), дзе ў тым ліку і я працаваў шмат гадоў на розных пасадах.

Колькі «Аэрагеакарт» існуе, мы ніколі нікога не запрашалі на работу спецыяльна — да нас спецыялісты прыходзяць самі. І па сённяшні дзень у фірме адсутнічае паняцце «цякучасць кадраў». За ўсю гісторыю нашага існавання ні разу не было затрымак з выплатай зарплаты.

Колькі людзі зарабляюць? Лічу, па сучасным жыцці няшмат — па 3-4 мільёны рублёў у месяц. Улічыце, што праца ў геадэзістаў цяжкая — у асноўным на палявых работах, у шматлікіх камандзіроўках.

Адзін час у калектыве абмяркоўвалася пытанне па стварэнню прафсаюза, але потым самі ж работнікі адмовіліся ад гэтай ідэі, маўляў, навошта ён нам. Асабіста я лічу, што прафсаюз усё роўна павінен быць.

### ПЕРСПЕКТЫВЫ ТРЭБА ЗАКЛАДВАЦЬ САМІМ

На маю думку, геадэзія Беларусі знаходзіцца сёння на мяжы развалу. З-за адсутнасці разумення праблем гэтай навукі і яе значэння для краіны з боку ўрада некалі магутнае Беларускае картографа-геадэзічнае аб'яднанне не па сваёй волі зараз знаходзіцца ў цяжкім стане. Параўнальна невялікае недзяржаўнае прадпрыемства «Аэрагеакарт», якое, тым не менш, мае вялікія магчымасці, сувязі, большую мабільнасць, больш здольнае да выжывання. Лічу, што мы сёння ў стане ў любы момант выконваць дзяржаўныя задачы ў галіне геадэзіі, калі такая неабходнасць узнікне. Зазначу: мы не адмаўляемся, а, наадварот, цэнім любое супрацоўніцтва з Беларускім картографа-геадэзічным аб'яднаннем, якое толькі на карысць абодвум бакам.

На сённяшні момант у фірме працуюць 40 інжынераў — гэта вельмі шмат, і гэта каласальны патэнцыял. Таму сёння мы прыступілі да стварэння вытворчага аб'яднання, куды ўвойдуць некалькі геадэзічных прадпрыемстваў і фінансавая кампанія, якія да канца года размесцяцца ў нашым новым адміністрацыйным будынку. Пасля яго стварэння мы плануем аказваць заказчыкам юрыдычныя паслугі па зямельнаму праву, мяркуем адкрыць агенцтва нерухомасці, стварыць уласную лабараторыю па рамонту геадэзічных прыбораў, пачынаючы ад оптыка-механічных і заканчваючы электроннымі, працаваць над далейшым пашырэннем паслуг.

Вялікія надзеі ўскладаем на выкананне ўжо атрыманага ад Федэральнай службы геадэзіі Расійскай Федэрацыі заказу па выкананню карты-панарамы горада Масквы. Гэта надзвычай прэстыжная, цікавая работа, якая, да таго ж, мае грунтоўную фінансавую аснову. Як мы змаглі атрымаць такі заказ? У Маскве добра знаёмы з нашай фірмай, якасцю выконваемых работ, нашым творчым патэнцыялам, таму выбар выпаў менавіта на «Аэрагеакарт».

### АБ ЧЫМ МАРЫЦЦА

Вельмі хацелася б дажыць да таго часу, калі ў нас можна будзе свабодна набыць любыя высокадакладныя карты для шырокага карыстання. Тыя, якія сёння ёсць у продажы, — састарэлыя ці больш аглядныя, як кажуць, хутчэй аматарскія. Хацелася б, каб, як і на Захадзе, можна было купіць каляровыя аэраздымкі мясцовасці. Асабіста я магу разглядаць добрую карту гадзінамі — прыгадваць, вяртацца ў памяці да мінулых гадоў, бачыць твары сяброў, месцы паходных стаянак... Вельмі люблю глядзець на карту, дзе табе найбольш усё знаёма, дзе кожны куток нешта для цябе азначае — карту Радзімы. Асабіста я палічыў бы за гонар стварыць менавіта такую карту!..





**Супрацоўнікі фірмы Ягор ТАРАЗЕВІЧ, Уладзімір ЛЫСКО, Міхаіл ЛЫЖКО, Алег ВАЗНЯК, Ігар ЦІМАФЕЕЎ;**



**Генадзь ЖЫЗНЕЎСКІ і Аляксандр ОСІН праводзяць здымкі мясцовасці.**

# ...айперш там праходзяць геадэзісты



**дзе, былі завершаны ў 1914-м), Волга-Данскога (адкрыты ў 1952 годзе) каналаў. Надзвычай складанае геадэзічнае забеспячэнне пры будаўніцтве ГЭС, дзе дакладнасць работ, скажам, пры мантажы турбін дасягае сотых долей міліметра, а таксама пры праектаванні атамных станцый. Ды што далёка хадзіць па прыклады: кожны з нас раз-пораз карыстаецца метро. Яго будаўніцтва вядзецца адразу з некалькіх пунктаў да падземных стыковак з вялікай дакладнасцю ў адной кропцы зноў жа пры дапамозе геадэзістаў. Тое ж самае можна сказаць пра шахтабудаванне, пракладку аўтамабільных і чыгуначных дарог, мастоў, іншых інжынерных аб'ектаў, жылых дамоў. Карты любога прызначэння (ваенныя, тапаграфічныя, геалагічныя, глебавыя, транспартныя, уключаючы паветраны флот, школьныя) не могуць убачыць свет без цяжкай працы геадэзістаў-картографаў. Гэта ўжо не кажучы пра выкарыстанне аэрафота- і касмічнай геадэзіі, без якіх увогуле немагчыма жыццё любой развітой краіны.**

**З мэтай даведацца, у якім стане знаходзіцца сёння айчынная геадэзія, чым жыве і займаецца, якія перспектывы мае, я звярнуўся да дырэктара гасразліковага цэнтра навукова-тэхнічных і вытворчых паслуг «Аэрагеакарт» Уладзіміра Ваганавіча МКРТЫЧАНА, начальніка 82-й экспедыцыі Беларускага картографа-геадэзічнага аб'яднання «Белгеадэзія» Уладзіміра Васільевіча ХРУСТАЛЁВА і галоўнага інжынера экспедыцыі Мікалая Фёдаравіча БАНДАРУКА.**

## Каб не было сорамна і балюча за геадэзію заўтра, яе трэба ратаваць сёння

### БЕЛАРУСКІХ ГЕАДЭЗІСТАЎ ВЕДАЎ УВЕСЬ САЮЗ І НАВАТ ЗАМЕЖЖА

— Падчас існавання СССР на тэрыторыі краіны налічвалася 25 тапографа-геадэзічных прадпрыемстваў. Беларускае картографа-геадэзічнае аб'яднанне (тады яно называлася Аэрагеадэзічнае прадпрыемства № 5) лічылася вядучым прадпрыемствам ва ўсёй геадэзічнай галіне Савецкага Саюза, — расказвае галоўны інжынер 82-й экспедыцыі Беларускага картографа-геадэзічнага аб'яднання «Белгеадэзія» Мікалай Бандарук. — Методыкі і тэхналогіі, а галоўнае спецыялістаў для яго збіралі літаральна з усіх абсягаў велізарнай краіны. Вядучыя кадры рыхтаваліся ў спецыялізаваных навучальных установах Кіева, Масквы, Львова, а таксама на курсах прадпрыемства, адкуль, дарэчы, імі камплектаваліся і іншыя шматлікія геадэзічныя прадпрыемствы Беларусі. Краіну для работы геадэзістаў тады дзялілі не па тэрытарыяльных граніцах, а проста на аднасна роўныя вялікія ўчасткі. За Аэрагеадэзічным прадпрыемствам № 5 былі замацаваны ўся Беларусь, Літва, Латвія, частка Эстоніі, Калінінградская, Смаленская і Бранская вобласці, частка Украіны. Усе неабходныя работы ў гэтых раёнах выконвалі беларускія спецыялісты.

— Пра геадэзістаў, скажам, Літвы ці Латвіі тады ніхто нічога асаблівага не ведаў, — працягвае галоўны інжынер. — Усю астраномію, геадэзію, тапаграфію, уключаючы работы па геадэзічнаму забеспячэнню меліярацыйнага будаўніцтва на тэрыторыі гэтых колішніх рэспублік СССР, выконвалі мы. Якасць зробленай работы заўсёды была настолькі выдатнай, што нас неаднаразова запрашалі ў іншыя рэгіёны (нягледзячы на існаванне там «сваіх» геадэзічных прадпрыемстваў). Напрыклад, даволі часта даводзілася бываць беларускім спецыялістам на поўначы і ўсходзе СССР, а таксама рыхтаваць спецыялістаў і выконваць работы ў замежжы — на Кубе, Самалі, у Афганістане, Лаосе і іншых краінах.

Па словах Мікалая Фёдаравіча, першыя цяжкасці прадпрыемства адчула на сабе неўзабаве пасля распаду СССР. Вялікія вытворчыя магутнасці, патэнцыял, што былі разлічаны на вялікую тэрыторыю, аказаліся лішнімі. Замест ранейшых 405 тысяч квадратных кіламетраў пад «патранажам» беларускіх геадэзістаў засталося крыху больш за 200 тысяч квадратных кіламетраў плошчаў — уласна кажучы, толькі тэрыторыя самой Беларусі. За невялікі прамежак часу магутнасці прыйшлося скарачаць напалову, што, натуральна, не магло не адбіцца на рабоце і жыццядзейнасці адладжанага механізма. Найперш, зразумела, у пошуках «даху над галавой» у іншых ведамствах і арганізацыях пачалі звальняцца людзі. Прыкладаючы немалыя намаганні, дзяржаўнае прадпрыемства «Белгеадэзія» спрабавала захаваць калектыў, у тым ліку і шляхам змянення профілю дзейнасці. Аднак захаваць аэрафотаздымачную, фотаграмметрычную вытворчасць не ўдалося з-за адсутнасці дзяржзаказаў, скарачэння геадэзічнай і картаграфічнай дзейнасці наогул. Што гэта азначае для Беларусі, дзе ніводная навучальная ўстанова не рыхтуе патрэбныя кваліфікаваныя кадры (у тую ж, напрыклад, 82-ю экспедыцыю за апошнія 5-6 гадоў былі прыняты на працу толькі 2-3 выпускнікі айчынных навучальных устаноў), зразумець няцяжка...

### ПРОЦІСТАЯЦЬ ВЕДАМСТВЫ, УРАД МАЎЧЫЦЬ, А ЦЕРПІЦЬ НАВУКА

Разам са спецыялістамі, якія пачалі пакідаць аб'яднанне, самы балючы ўдар геадэзіі нанёс... урад Беларусі. Пасля распаду СССР у кожнай новай суверэннай дзяржаве неўзабаве былі створаны ўласныя геадэзічныя камітэты (дэпартаменты, упраўленні — розныя назвы не мяняюць іх сутнасці) па геадэзіі і картаграфіі. Працэс гэты такі ж натуральны, як і унікальнасць дзяржаўнага геадэзічнага забеспячэння народнай гаспадаркі любой краіны: як ужо падкрэслівалася, ніводная дзяржава не можа абысціся без такой галіны, як уласная геадэзія. А між тым атрымалася так, што Рэспубліка Беларусь засталася адзінай (!) краінай з ліку рэспублік былога СССР, дзе гэтая праблема засталася па-за ўвагай урада. Праўда, напачатку быў створаны Камітэт па геадэзіі пры Кабінеце Міністраў, але ў верасні 1994 года прэзідэнцкім указам ён быў ліквідаваны. Беларускае картографа-геадэзічнае аб'яднанне «Белгеадэзія» (дакладней, тое, што ад яго засталося) зараз «прыпісана» да Міністэрства будаўніцтва і архітэктуры, яго паліграфічная база — картаграфічная фабрыка — была перададзена Міністэрству фінансаў. На думку ўсіх спецыялістаў, з кім даводзілася гутарыць у 82-й экспедыцыі, разам са скасаваннем камітэта знікла не толькі агульнадзяржаўнае кіраванне геадэзічнай галіной, але і звычайная сувязь паміж тым, што робіцца сёння рознымі арганізацыямі ў гэтым накірунку. Так, цалкам былі спынены работы па стварэнню і абнаўленню геадэзічнай дзяржаўнай базы даных, больш не вядуцца астранома-геадэзічныя назіранні і назіранні за касмічнымі целамі, вымярэнні зрушэнняў зямной кары ў Беларусі ўвогуле і на беларускім геадынамічным палігоне — у прыватнасці, што можа мець велізарныя адмоўныя наступствы пры будаўніцтве буйных аб'ектаў накшталт метрапалітэна, нафтаправодаў, гідразбудаванняў, буйных водазабораў і гэтак далей. Была скасавана і льгота (вельмі важная для людзей, якія шмат часу праводзяць у камандзіроўках), калі пасля 12,5 года палявога стажу чалавек мог ісці на пенсію.

Як падкрэсліў падчас размовы Мікалай Бандарук, на думку геадэзістаў, за ўсім гэтым праглядваецца звычайнае процістаянне ведамстваў. А тым часам, пакуль розныя міністэрствы і ведамствы дзеляць «спадчыну», сама геадэзія аказваецца ва ўсё большым заняпадзе.

— На сённяшні дзень мы ўжо адсталі ў галіне геадэзіі, напрыклад, ад Расіі мінімум на 5-6 гадоў, — гаворыць галоўны інжынер. — Гэта і тэхналогіі, і методыкі, нарэшце новыя прыборы і інструменты, аб якіх мы можам толькі марыць. Тое ж можна сказаць і ў дачыненні да суседніх Украіны і Літвы, дзе належным чынам развіваюцца геадэзічная сетка, картаграфія. Сорамна казаць, але сёння ў нас на Беларусі цалкам адсутнічае сучасны картаграфічны матэрыял. Большасць карт, якія сёння друкуюцца ў краіне, зроблены на падставе даных мінулых гадоў, якія, вядома ж, ужо ўстарэлі. Няма сучасных карт маштабу 1:10000 (на ўсю тэрыторыю — дзяржаўнай карты Беларусі); спынены работы па стварэнню планаў тэрыторый у маштабе 1:5000; значна ўстарэлі і не абнаўляюцца планы гарадоў, іншых населеных пунктаў у маштабе 1:2000. Але нават калі мы іх і здолеем выпусціць, друкаваць давядзецца дзесьці за межамі Беларусі, бо паліграфічнай базы ў нас ужо няма... У нас нават адсутнічае сваё друкаванае выданне, якое вельмі патрэбна спецыялістам.



### ЯНЫ ЗНАЙШЛІ ГЕАГРАФІЧНЫ ЦЭНТР КРАІНЫ І «ДАДАТКОВЫЯ» 156 КВ. КМ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

Нягледзячы на ўсе складанасці, у аб'яднанні спадзяюцца на тое, што ў рэшце рэшт урад зразумее ўсю важнасць геадэзіі як галіны народнай гаспадаркі з усімі вытякаючымі адсюль вынікамі. Таму да сённяшняга бязладдзя калектыў імкнецца ставіцца як да часовых цяжкасцей і ўсе сілы (вельмі часта на грамадскіх пачатках) накіроўвае на захаванне творчага і навуковага патэнцыялу, без якога ў будучым немагчыма адраджэнне айчыннай навукі геадэзіі. А тое, што ён ёсць, пацвярджаюць апошнія работы і даследаванні 82-й экспедыцыі ў садружнасці з інфармацыйна-вылічальным цэнтрам (ІВЦ) «Белгеадэзіі».

У свой час «Звязда» ўжо пісала пра адкрыццё геаграфічнага цэнтра Беларусі. Нагадаем, што такое месца, дакладна вылічанае і адзначанае на мясцовасці, маюць усяго толькі некалькі краін свету. А між тым геаграфічны цэнтр, які мае дакладныя каардынаты, можа быць выкарыстаны як зыходная «геаграфічная дата» для дзяржаўнай геадэзічнай апоры і ў выніку — для ажыццяўлення мерапрыемстваў для агульнадзяржаўнага зямельнага кадастра, як асновы для іншых кадастраў. Упершыню можна будзе ставіць пытанне аб тэхнічным каардынаванні дзяржаўнай мяжы Беларусі.

Аб складанасці і адначасова дакладнасці праведзеных 82-й экспедыцыяй сумесна з інфармацыйна-вылічальным цэнтрам (ІВЦ) і фірмай «Аэрагеакарт» даследаванняў сведчыць, напрыклад, той факт, што вынас геаграфічнага цэнтра на мясцовасць (вызначэнне пункта на мясцовасці) ажыццяўляўся з дапамогай высокадакладнай спадарожнікавай сістэмы. Папярэдне ў аснову работы было пакладзена ажно 18 версій падліку. У рэшце рэшт спыніліся на пяці спосабах, якія, як бы дапаўняючы і пераправяраючы адзін аднаго, дазвалялі вылічыць шукаемы цэнтр з максімальнай дакладнасцю. Частка сферычнай зямной паверхні была пераведзена ў плоскасць геадэзічнымі пераўтварэннямі, з дапамогай буйнамаштабных карт праз кожныя 100—200 метраў знялі каардынаты дзяржаўнай граніцы і ўсе атрыманыя даныя заклалі ў камп'ютэр. У выніку атрымалася, што геаграфічны цэнтр Беларусі знаходзіцца каля вёскі Антонава Новасялкоўскага сельскага Савета Пухавіцкага раёна. Сёлета ў апошні дзень вясны на гэтым месцы быў адкрыты спецыяльны геадэзічны комплекс. Каардынаты геаграфічнага цэнтра і трох яго спадарожнікаў былі занесены ў Дзяржаўны геадэзічны каталог у якасці пунктаў дзяржаўнай геадэзічнай сеткі. Як падкрэслівалі падчас урачыстай цырымоніі адкрыцця комплексу ўсе выступаючыя, значэнне гэтай падзеі цяжка пераацаніць як у пазнавальным, прыкладным, навуковым сэнсе, так і (што ці найперш важна) у палітычным плане. У прыватнасці, як адзначыў навуковы эксперт праведзеных работ прафесар Аляксей Саламонаў, у кожнага народа ёсць святыні, якія ў цяжкія часы надаюць яму моцы, дазваляюць устаць з каленяў. Гэтыя святыні — асаблівыя месцы на карце краіны, з якімі непарыўна звязана душа народа і дзякуючы якім яна захоўваецца. Дарэчы, да падзеі не выказалі ніякай увагі члены ўрада, народныя дэпутаты, хаця геаграфічны цэнтр краіны знаходзіцца ўсяго за 70 км ад Мінска — чым не яскравы прыклад стаўлення да геадэзіі на сённяшні дзень?..

А зусім нядаўна спецыялістамі Беларускага картографа-геадэзічнага аб'яднання «Белгеадэзія» пад кіраўніцтвам начальніка інфармацыйна-вылічальнага цэнтра Барыса Фурмана быў знойдзены алгарытм падліку, прымяненне якога дазволіла ўстанавіць, што плошча нашай краіны (папярэднія даныя) на 156 квадратных кіламетраў большая, чым лічылася раней! Як вядома, на ўсіх картах стаіць лічба 207,6 тыс. кв. км, а аказалася — 207.756 тыс. кв. км. Справа ў тым, што роўны прамежак на карце і на мясцовасці — гэта не адно і тое ж. На плоскасці цяжкасці ўзнікаюць з-за рэльефу, таму дакладны рэзультат атрымаць надзвычай цяжка. Распрацаваная ж геадэзістамі тэхналогія вызначэння працягласці граніц і плошчаў дазваляе максімальна павысіць (з пэўнай пагрэшнасцю, якую раней ніколі не ўказвалі) дакладнасць падлікаў. Няцяжка здагадацца, якую карысць прынясе вынаходка алгарытму: будуць удакладнены граніцы адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў, іх плошчы, працягласць дзяржаўнай граніцы і г. д. Нагадаем: усе гэтыя работы зноў-такі былі праведзены на энтузіязме супрацоўнікаў калектыву.



**Начальнік 82-й экспедыцыі Уладзімір ХРУСТАЛЁЎ і галоўны інжынер Мікалай БАНДАРУК.**

Акрамя гэтых «грамадскіх» работ, як расказаў Мікалай Бандарук, сёння 82-я экспедыцыя займаецца ўсім, што можа даць сродкі. З дапамогай фірмы «Аэрагеакарт» выйшлі на Расію, дзе за вельмі невялікія грошы гатовы выконваць любую геадэзічную работу. На Беларусі раней займаліся праектаваннем падземных камунікацый, будаўніцтвам жылых масіваў, але зараз заказчыкаў практычна няма. Перашкаджае яшчэ і тое, што ліцэнзіі на будаўніцтва ў Расіі, якія выдаюцца ў Міністэрстве будаўніцтва і архітэктуры, у суседняй дзяржаве прызнаюцца, а тыя, якія выдаюцца на геадэзічныя работы, — не...

— На шчасце, апошнім часам атрымалі некалькі даволі прэстыжных заказаў, у тым ліку і дзяржаўных, — гаворыць Мікалай Фёдаравіч. — Найперш, нам даручана работа па дэмаркацыі дзяржаўнай граніцы з Літвой і Латвіяй. Да мяркуемага чарговага перапісу насельніцтва Беларусі таксама атрымалі картаграфічны заказ.

Дарэчы будзе напомніць, што цяпер у большасці развітых краін для мэтаў навігацыі і геадэзіі шырока выкарыстоўваюцца спадарожнікавыя навігацыйныя сістэмы, якімі сёння ўзбройваюцца і многія арганізацыі Беларусі. Спецыялісты экспедыцыі, асвоіўшы дарагую апаратуру, паспяхова ўкараняюць GPS-тэхналогіі, якія таксама паспяхова канкурыруюць з традыцыйнымі наземнымі метадамі геадэзічных вымярэнняў.

У гэтай сувязі востра паўстала пытанне аб дакладнай метралагічнай атэстацыі геадэзічнай апаратуры касмічных навігацыйных сістэм. Па ініцыятыве тапографа-геадэзічнай экспедыцыі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Хрусталёва распрацавана праектна-тэхнічная дакументацыя па стварэнню Мінскага выпрабавальнага геадэзічнага палігона для метралагічнай атэстацыі спадарожнікавых прыёмна-вылічальных комплексаў. Гэта дарагія фундаментальныя работы, выкананне якіх дасць магчымасць забяспечыць у рэспубліцы адзінства вымярэнняў у гэтай галіне на ўзроўні Дзяржстандарту.

Улічваючы складанае становішча, у якім, як раней адзначалася, аказалася вядучае геадэзічнае прадпрыемства Беларусі, рэалізацыя гэтага праекта прадугледжвае ўдзел Рэспубліканскага навукова-тэхнічнага цэнтра дыстанцыйнай дыягностыкі прыроднага асяроддзя — РНТЦ «ЭКОМІР» Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Акадэміі навук Беларусі (дырэктар РНТЦ А. Кавалёў) і фірмы «Аэрагеакарт» (дырэктар У. Мкртычан), якім мы загадзя ўдзячныя за дзелавы ўдзел у сумеснай рэалізацыі праекта.

Зараз працуем з Белтрансгазам, які вядзе маркіроўку трас, удзельнічаем у інвентарызацыі зямель, робім абмеры ў гаспадарках. На сённяшні дзень гатовы выконваць любую геадэзічную работу, якая неабходна заказчыку.



**Матэрыялы інфармацыйна-рэкламных палос падрыхтаваў Сяргей РАСОЛЬКА, фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ і аўтара.**

***Аўтар выказвае шчырую падзяку рэцэнзенту — доктару тэхнічных навук, прафесару, члену-карэспандэнту Міжнароднай акадэміі тэхнічнай адукацыі, навуковаму кіраўніку Асацыяцыі картографаў і геадэзістаў Беларусі Аляксею САЛАМОНАВУ.***

○ Сталовую лыжку зерня аўса з вечара заліць 2 шклянкамі вады. Раніцай варыць 10 хвілін, астудзіць, працадзіць. Піць штодзённа як чай. Гэты сродак падаўляе цягу да тытуню.

○ Змяшаць у роўных па вазе частках зерне аўса, ячменю, жыта і проса, 400 г сумесі заліць 1 л вады, настояць ноч, раніцай давесці да кіпення і варыць на слабым агні 10 хвілін, а затым настояць у тэрмасе яшчэ суткі, працадзіць. Прымаць 3—5 разоў на дзень па 1/2 шклянкі за 30—40 хвілін да яды, пакуль не знікне жаданне курыць.

○ 300 г недаспелага насення аўса заліць 1 л гарэлкі, настояць у цёмным месцы на працягу месяца, перыядычна патрэсваючы змесціва, працадзіць. Прымаць па 15 кропель, запіваючы глытком вады, 3 разы на дзень за 20 хвілін да яды.

○ 50 г сухой здробненай травы цяцюшніку лекавага заліць 1 л вады, давесці да кіпення, варыць на слабым агні 15 хвілін, настояць 45 хвілін, працадзіць. Паласкаць рот цёплым адварам 3-4 разы на дзень на працягу 5—10 хвілін.

○ На суткі тытунь змясціць каля меднага купарвасу. Пры курэнні гэтага тытуню ўзнікае агіда.

*36,6°*

# ТАКОЕ БРЫДКАЕ КУРЫВА

**Вы хочаце кінуць курыць? Тады можа варта прыслухацца да рэкамендацый народных лекараў**

○ Змяшаць 10 г кары бука, 80 г лістоў лістоўніку звычайнага (папаратніку) і 60 г травы залатой розгі, 30 г сухой здробненай сумесі заліць 1 л вады, давесці да кіпення, варыць на слабым агні 10 хвілін, настояць, ухутаўшы, 10 хвілін, працадзіць. Цёплым адварам паласкаць рот 3-4 разы на дзень па 5—10 хвілін кожны раз.

○ Высушыць у цяні панцыры рака, здрабніць у парашок. Змяшаць 10 г парашку з тытунём з пачка цыгарэт. Пакурыце гэтай атруты, больш не захочацца.

○ Змяшаць па 100 г травы спарыша і крапівы двухдомнай, 75 г травы зябру, 50 г травы хвашчу палявога і 40 г ісландскага моху (цэтрарыі ісландскай). Дзве сталовыя лыжкі сухой здробненай сумесі заліць 0,5 л вады, варыць 10 хвілін, астудзіць, працадзіць. Піць па 1/2 шклянкі праз 2 гадзіны пасля яды.

○ Дзве сталовыя лыжкі сухіх здробненых каранёў мальвы лясной заліць 1 л вады, варыць у закрытай пасудзіне 10 хвілін, настояць, ухутаўшы, 1 гадзіну, працадзіць. Паласкаць рот цёплым адварам 3-4 разы на дзень па 5—10 хвілін.

○ Узяць па сталовай лыжцы свежага лісця дзягілю і трыпутніку вялікага, увільгатніць лыжкай вады, здрабніць, зрабіць некалькі шарыкаў і жаваць іх 2 разы на дзень па 10 хвілін. Сліну глытаць, а траву выплёўваць. Пасля гэтага на працягу 3 гадзін не хочацца курыць. Курс лячэння — 6 дзён. Пры неабходнасці гэты курс працягваць на працягу ўсяго летняга сезона.

○ Узяць па сталовай лыжцы свежага лісця хрэну і трыпутніку вялікага. Сумесь жаваць 2 разы на дзень па 5 хвілін, сок глытаць.

○ Змяшаць 100 мл гарэлачнай настойкі лаканосу амерыканскага і 30 мл гарэлачнай настойкі травы пасконніку пурпуровага. Сумесь настоек прымаць па схеме: 1-ы дзень — па 10 кропель, 2-і — 4-ы дні па 20 кропель, 5-ы — 7-ы дні — па 30 кропель; ва ўсіх выпадках 3 разы на дзень за 30 хвілін да яды, запіваючы вадой. Гэты сродак выклікае агіду да тытуню.

○ У вельмі цяжкіх выпадках звяртацца да так званай «ачысткі крыві»: узяць па 30 г свежых шыпулек сасны, лісця суніцы, маліны, грэцкага арэха і трыпутніку ланцэталіснага, травы рапяшку аптэчнага, крапівы пякучай, крынічніку, святаянніку, крываўніку, маруны сапраўднай, пладоў ядлоўцу звычайнага. 2 сталовыя лыжкі сумесі заліць 0,5 л вады, варыць 15 хвілін, настояць да астывання, працадзіць. Піць па 100 г раніцай да яды.

**Мікалай ДАНІКАЎ, фітатэрапеўт.**

*«Тайная власть».*

## УСХОДНІ ГАРАСКОП
### на наступны тыдзень

КАЗЯРОГ пераканаецца, што падзеі выйшлі з-пад кантролю і спробы паўплываць на іх ход скончацца няўдачай. Не спрабуйце супраціўляцца свайму лёсу. Плывіце па волі хваляў, і яны вынесуць вас да жаданага берага. Маладым людзям зоркі раяць асцерагацца хітрыкаў махляроў, якія паспрабуюць абвесці іх вакол пальца.

ВАДАЛЕЙ павінен выконваць парады спецыялістаў, і тады ў вас з'явіцца магчымасць атрымаць значную суму наяўнымі. Не трэба спрабаваць дзейнічаць самастойна там, дзе ў вас няма вопыту. Вадалеі жаночага полу, якім собіла пакахаць жанатага мужчыну, маюць магчымасць рассячы гордзіеў вузел і паставіць кропку ў сваім няпэўным становішчы.

РЫБАМ прыйдзецца спачатку ўзважыць свае магчымасці, а потым пачынаць новую справу. Планеты лічаць, што вы і так дастаткова занятыя, каб узвальваць на сябе дадатковыя абавязкі. Да таго ж фінансавая аддача не будзе адпавядаць затрачаным намаганням.

АВЕНЫ сутыкнуцца з невялікімі непрыемнасцямі на працы. Спыніцеся, азірніцеся і праз некалькі дзён спакойна працягвайце пачатае. Магчымы праблемы ў адносінах з каханым чалавекам і роднымі. Ваша прыватнае жыццё ўступіла ў перыяд няпэўнасці, за што вам трэба вінаваціць толькі сябе.

ЦЯЛЬЦЫ будуць планаваць адно, а справы будуць ісці сваім парадкам. У суботу вы атрымаеце паведамленне, якое прымусіць убачыць жыццё ў новым святле. Ці ў ружовым, ці ў чорным — аб гэтым зоркі маўчаць. Улічыце, што вырашэнне нейкіх асабістых праблем на будучым тыдні скончыцца няўдачай.

БЛІЗНЯТЫ будуць задаволены ходам сваіх спраў, і, паколькі крызісныя сітуацыі вам не пагражаюць, можна будзе крыху расслабіцца і адпачыць. Зоркі рэкамендуюць прысвяціць сябе якой-небудзь творчасці ці любімаму занятку, таксама варта ўдзяліць увагу ўласнай сям'і, асабліва дзецям.

РАКАМ прыйдзецца адмовіцца ад многага дзеля выканання вялікай і цяжкай справы. У вас будзе вялікае жаданне закончыць яе датэрмінова, каб хутчэй адправіцца ў адпачынак. Дзейнічайце абачліва, бо паспяховае выкананне гэтага праекта абяцае вам добрыя барышы.

ІЛЬВАМ суджана прыходзіць у раздражненне ад бязладдзя ў асабістым жыцці. Узвінчаны стан не будзе спрыяльным для вашага здароўя, за якім прыйдзецца сачыць. Зоркі прапануюць вам неяк памяняць абстаноўку, адпачыць і крышачку расслабіцца.

ДЗЕВАМ трэба дзейнічаць рашуча. У вас будуць выдатныя магчымасці для паспяховай рэалізацыі ўсяго задуманага. Далёкасяжныя планы спраўдзяцца, калі прыслухаецеся да парад вопытных людзей. У сардэчных справах спадзявайцеся толькі на сябе і не чакайце першага кроку ад іншых.

ШАЛЯМ давядзецца бліснуць усімі сваімі талентамі і здольнасцямі. Варта паспрабаваць, бо ўзнагарода за намаганні будзе вельмі значнай. Але Шалям-бізнесменам не варта брацца за выкананне новага праекта з замежнымі партнёрамі. Зоркі лічаць, што тут вам не пашанцуе.

СКАРПІЁНУ лепш за ўсё ўзяць тайм-аўт, забыцца на работу і махнуць з роднымі ў адпачынак. Зоркі спрыяюць вашым падарожжам і творчым заняткам. Паспяховымі могуць быць паездкі і з дзелавымі мэтамі.

СТРАЛЬЦАМ на будучым тыдні давядзецца вырашаць шмат фінансавых пытанняў. Прыйдзецца займацца інвестыцыямі, укладаннем сродкаў у нерухомасць, у адукацыю дзяцей і некага з блізкіх сваякоў. Зоркі раяць паспяшацца з гэтым, паколькі перыяд вашага фінансавага дабрабыту ўжо набліжаецца да свайго завяршэння.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР-ТАСС.**

*г. Дэлі.*

*СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

## КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 2. Балотная птушка. 4. Навука аб законах руху куль, мін, снарадаў. 6. Чыгуначная станцыя ў Магілёўскай вобласці. 7. Галоўны горад Адыгеі. 10. Рускі кампазітар, аўтар сімфанічнай паэмы «Званы». 11. Ісламская краіна на ўзбярэжжы Персідскага заліва. 14. Член разведвальнай арганізацыі. 15. Выдатны дзеяч навукі, культуры. 16. Струнны музычны інструмент. 19. Моцны дождж. 20. Абазначэнне граніцы на мясцовасці з дапамогай спецыяльных знакаў. 22. Спецыяльны грузавы або пасажырскі рэйс. 28. Гара на мяжы Арменіі і Турцыі. 25. Ступень музычнага лада. 26. Узвышша ў Забайкаллі, на Далёкім Усходзе.

**Па вертыкалях:** 1. Беларускае жаночае імя. 2. Знакаміты канструктар стралковай зброі. 3. Горад на рацэ Сож. 4. Балгарская авіякампанія. 5. Зорка ў сузор'і Валапаса. 6. Беларускі мастак. 8. Усенародны рэферэндум. 9. Суадносіны паміж валютамі розных краін у золаце. 10. Зорка першай велічыні ў сузор'і Ільва. 12. Адна з дзевяці муз у грэчаскай міфалогіі. 13. Жылы мікраараён у горадзе Мінску. 17. Боепрыпас для гарматы. 18. Афіцыйная вусная або пісьмовая заява аб незадавальненні ці няправільных дзеяннях. 21. Герметычная пасудзіна для падтрымання пастаяннай тэмпературы. 24. Курорт на Чорным моры.



**Склаў Валерый ПІНЧУК.**

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (7 верасня). Па гарызанталях:** 3. Апрычніна. 5. Скарга. 6. Рыштокю 9. Азія. 10. Клічнік. 11. Плед. 15. Святліца. 16. Аэрастат. 17. Век. 19. Сечка. 20. Увага. 22. Раб. 25. Прапіска. 27. Дэдукцыя. 28. Крым. 29. Ветразь. 30. Атам. 33. Атрута. 34. Айчына. 35. Перманент. **Па вертыкалях:** 1. Прагулка. 2. Кірыліца. 3. Авал. 4. Анты. 5. Сціртa. 7. Куліса. 8. Шчаўе. 9. Адвячорак. 12. Драматызм. 13. Віцебск. 14. Брыгада. 17. Вар. 18. Куб. 21. Оптыка. 23. Акорд. 24. Скатка. 26. Агентура. 27. Дызайнер. 31. Трап. 32. Сырт.

**Галаваломка (7 верасня).** 1. Бабёр. 2. Алень. 3. Галец. 4. Шчара. 5. Сівер. 6. Асётр. 7. Рыжык. 8. Ласка. 9. Бакас. 10. Шчаўе. 11. Буякі. 12. Чапля. 13. Снуды. 14. Вішня. 15. Качка. 16. Асака. 17. Фазан. 18. Хрушч. 19. Чабор. 20. Вярба. **Па акружнасці:** «Белавежская пушча», «Зубр».

**Крыптаграма (7 верасня).** Ключавыя словы ў ёй: тыдзень, люцік, путч, ягдташ, морс, а зашыфраваная прымаўка з кнігі «Малыя жанры рускага фальклору» такая: «Рускія марудна запрагаюць, але потым шпарка імчацца».





**ДЗЕСЯЦЬ АДРОЗНЕННЯЎ**

На гэтых двух вельмі падобных малюнках адшукайце дзесяць адрозненняў.



Печать НПООО «Бахус» СЧИТАТЬ НЕДЕЙСТВИТЕЛЬНОЙ в связи с утерей.

## Субота, 14 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00** Навіны. **8.15** «Сугучнасць». Перадача з Гомеля. **8.45** «Лёс мой і надзея». Сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў. **9.15** Здароўе. Тэлечасопіс. **9.45** Урокі Наталлі Наважылавай. **10.15** «Усё пра ўсё». **10.40** «Ералаш». **11.00** Шматгалоссе. Татары-мусульмане: шэсць стагоддзяў на зямлі Беларусі. **11.35** Свет прыроды і захапленняў. **12.25** Творцы. Сямейны і творчы дуэт акцёраў Людмілы і Уладзіміра Мішчанчукоў. **13.00** Еўрапейская дваццатка. Музычная праграма MTV. **13.45** «Залаты Віцязь». Пераможцы кінафестывалю. **14.40** Калаж. Праграма для дзелавых людзей. **15.10** Чацвёртае вымярэнне. Навукова-асветніцкая праграма. **15.45** «Трыумф чалавечага духу». Беларусь на X Паралімпійскіх гульнях у Атланце. Частка 1-я. **16.15** «Залатая ліра». Хіт-парад беларускай песні. **17.00** Галерэя. Тэатразнаўца і журналіст Таццяна Арлова. Аўтарская праграма Таццяны Ягоравай. **17.30** Леанід Філатаў і Таццяна Друбіч у маст. фільме «Выбраныя». **19.45** Міжнародны паэтычны вечар у Доме літаратара. **20.45** Калыханка. **21.00** Навіны. **21.45** «У руках правасуддзя». 4-я серыя. **22.40** «Шклоў-96». Музычная праграма. **23.45** Відзьма-нявідзьма. **0.45** Цёмны пакой. Жанчына і злачыннасць.

**ГРТ**

**7.00** «Ералаш». **7.10** Людміла Гурчанка ў фільме «Раман і Францэска». **8.45** Хатняя бібліятэка. **9.00** Навіны. **9.10** Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл. **9.30** Не зявай. **10.00** Ранішняя пошта. **10.35** Смак. **10.55** Прэм'ера. «Вяртанне Траццякоўкі». Фільм 1-ы. **11.30** «Далёка, далёка на поўдні». Мультфільм. **11.40** Пад знакам «Пі». **12.10** Міхаіл Жараў у фільме «Тры таварышы». **13.30** Амерыка з М. Таратутам. **14.00** Навіны. **14.20** Серыял «Вяртанне на востраў скарбаў». 2-я серыя. **15.15** Мультфільмы нашага дзяцінства. «Ідзі туды — не ведаю куды». **16.10** Леанід Якубовіч у тэлегульні «Кола гісторыі». **17.00** Навіны. **17.20** У свеце жывёл. **17.55** «Ералаш». **18.10** «Залатая серыя». «Белае сонца пустыні». **19.45** Добрай ночы, малышы. **20.00** Час. **20.40** Ніколь Кідман у прыгодніцкім фільме «В'етнам. Да запатрабавання». **21.40** Брэйн-рынг. **22.25** Кубак свету «Майстар-ралі-96». Парыж—Масква—Байканур—Улан-Батар. **22.40** Трылеры Хічкока: «Непрыемнасці з Гары».

**Расія**

**7.00** «Іскра Божая». Дак. фільм. **7.40** «Маўглі». Мультсерыял. **8.00** «Мак і Матлі». Серыял. **8.20** Па вашых пісьмах. **8.50** Тавары—поштай. **9.05** На V фестывалі мастацтваў «Славянскі базар». **10.00** Весткі ў адзінаццаць. **10.15** Ваш партнёр. **10.30** Добрай раніцы. **10.55** 21 кабінет. **11.20** «Паравозік з Рамашкава». Мультфільм. **11.30** Ананімныя субяседнікі. **12.00** «Паэт у Расіі — больш, чым паэт». Праграма Я. Еўтушэнкі. **12.25** Прасцей простага. **13.00, 19.00, 23.40** Весткі. **13.20** «Грахі». Тэлесерыял (ЗША). **14.10** «Нічога, акрамя...» **14.25** Дэ факта. **14.50** «Я чакаю цябе, кіт». Мультфільм. **15.00** Размова з фатаграфіямі. **15.30** Свая гульня. **16.00** Дыялогі пра жывёл. **16.30** Эх, дарогі... **17.00** Рэпарцёр. **17.15** Футбол без граніц. **17.45** «Ва ўсіх на вуснах». Праграма Н. Дар'ялавай. **18.00** «Каралева Марго». Маст. фільм. 3-я серыя. **19.30** Суботні вечар з Таццянай Шмыгай. **21.00** Надвор'е. **21.05** Зусім сакрэтна. **22.00** «Рэд рок вест». Маст. фільм. **23.50—0.40** Праграма «А».

**Санкт-Пецярбург**

**9.10** Стыль жыцця. **9.25** Па рацэ плыве сякера. **9.55, 11.55, 13.55, 15.55, 18.55** Інфарм ТБ. **10.10** «Гонар маю». Ваенны агляд. **10.40** Непазнанае. **11.10** Ток-шоу «Наўздагад». Давід Галашчокін. **11.40** Страсці-мардасці. **12.10** «Не хадзіце, дзеўкі, замуж». Маст. фільм. **13.15** Старадаўнія рамансы ў выкананні Нані Брэгвадзе. **13.30** Мультфільм. **14.10** Па ўсёй Расіі. **14.25** Мы і банк. **14.45** Сядзібы. **15.10** Спартыўны агляд. **15.25** Парадоксы гісторыі. «Нататкі жанчыны ў чорным». **16.10** Мультфільм. **16.20** «Моцарт. Сапраўдная хроніка апошняга часу». **17.05** ...Раўняецца каханне. **17.35** Паказвае Ленінградская АТК. **18.40** Вялікі фестываль. **19.20** «Сама нявіннасць». Маст. фільм (Францыя). **20.55** Свецкая хроніка. **21.10** Блеф-клуб. **21.45** Кругаварот. **22.05—23.35** «Гаспары, ці Пацукі Парыжа». Маст. фільм (Францыя).

**НТБ**

**6.00** Сёння. **6.20** Маст. фільм «Цудоўныя гады». **6.45** «Мафія-1». Серыял. 3-я серыя. **7.30** Маст. фільм «Пятля зацягваецца ў Сінгапуры». **9.00** Дак. фільм «Успомнім тыя гады. 1969». **9.45** Маст. фільм «Брыльянтавая рука». **11.20** «Анасіс». Міні-серыял. 1-я серыя. **12.10** Маст. фільм «Нямы крык» (Вялікабрытанія).

**Расійскія універсітэты**

**14.00** Шчыра Ваш. **14.30** «Канёк-Гарбунок». Мультфільм. **15.40** Крок з круга. **16.00** Навіны кіно. **16.20** Ток-шоу «Кар'ера».

**НТБ**

**17.00** «Горац». Мультсерыял (Францыя). **17.30** Дог-шоу «Я і мой сабака». **18.00, 21.00** Сёння. **18.30** «Цэль: Куба». Дак. фільм з серыяла «Шпіёны». **19.00** «Анасіс». Міні-серыял. 2-я серыя. **20.00** Надоечы. **20.45** Лялькі. **21.35** Маст. фільм «Людзі-кошкі» (ЗША). **23.40** Трэцяе вока. **0.25** Начны канал. «Плейбой».




ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.



*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; агледальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*





Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 6099.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12